Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

НАДЗВЫЧАЙНЫ XII З'ЕЗД СОВЕТАЎ БССР
ЧРЕЗВЫЧАЙНЫЙ XII СЪЕЗД СОВЕТОВ БССР
אויסערארדנטלעכער XII-טער אלווייסרוסישער סאָוועטנצוזאמענפאָר
NADZWYCZAJNY XII ZJAZD RAD BSRR

## БЮЛЕТЭНЬ № 2

# ПАСЯДЖЭННЕ ДРУГОЕ

**Ранішняе, 21 лістапада 1936 г.**

Паяўленне ў Прэзідыуме членаў Бюро ЦК КП(б)Б, урада БССР і членаў прэзідыума з'езда сустракаецца ўсімі дэлегатамі з'езда працяглымі бурнымі апладысментамі, усе ўстаюць.

**Жуковіч** (старшыня). Таварышы, другое пасяджэнне Надзвычайнага XII З'езда Советаў БССР аб'яўляю адкрытым (апладысменты).

Для даклада па першаму пытанню—Аб праекце сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР слова мае старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР тав. **Чэрвякоў** (бурныя апладысменты. Усе ўстаюць).

## I. СТАЛІНСКАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ—РЭЗУЛЬТАТ ПЕРАМОГ У БАРАЦЬБЕ ЗА СОЦЫЯЛІЗМ.

Таварышы, апублікаванне сталінскай Канстытуцыі было сустрэта працоўнымі Совецкага Саюза і Совецкай Беларусі з надзвычайным уздымам. Абмеркаванне праекта сталінскай Канстытуцыі яшчэ больш узняла палітычную актыўнасць і свядомасць працоўных мас горада і вёскі, выклікала далейшае пашырэнне стаханаўскага руху, яшчэ больш згуртавала працоўных Совецкага Саюза ў адну брацкую інтэрнацыянальную сям'ю, яшчэ больш умацавала любоў і адданасць працоўных да партыі Леніна—Сталіна, да вялікага правадыра народаў, нашага таварыша **Сталіна** (апладысменты).

Беларускі народ, абмяркоўваючы на шматлікіх сходах праект Канстытуцыі, ужо ўсюды аднагалосна прагаласаваў за сталінскую Канстытуцыю (апладысменты), прадэманстраваў сваю адданасць справе соцыялістычнага будаўніцтва, сваю непахісную рашучасць прадаўжаць барацьбу за соцыялізм да поўнай яго перамогі.

Мы сабраліся для таго, каб ад імя ўсяго беларускага народу на З'ездзе сказаць, што мы цалкам і поўнасцю адабраем праект сталінскай Канстытуцыі (бурныя апладысменты).

Мая задача заключаецца ў тым, каб раскрыць вялікую палітычную сутнасць і значэнне для працоўных Савецкай Беларусі сталінскай Канстытуцыі, якая з'яўляецца вынікам велізарных перамог у барацьбе за соцыялізм і асновай далейшага бязмежнага соцыялістычнага росквіту і развіцця.

Праект сталінскай Канстытуцыі—гэты вялікі дакумент эпохі цалкам адлюстроўвае тыя карэнныя змены, якія адбыліся ў нашай краіне пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі на чале з таварышом **Сталіным.**

VII Усесаюзны з'езд Советаў, разглядаючы пытанне аб унясенні некаторых змен у Канстытуцыю Совецкага Саюза, пастаўленае па ініцыятыве таварыша Сталіна, пастанавіў: «Унесці ў Канстытуцыю Саюза ССР змены ў напрамку:

а) далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не зусім роўных выбараў роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі;

б) удакладнення соцыяльна-эканамічнай асновы Канстытуцыі ў сэнсе прывядзення Канстытуцыі ў адпаведнасць з цяперашнімі суадносінамі класавых сіл у СССР (стварэнне новай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, умацаванне соцыялістычнай уласнасці як асновы совецкага грамадства і т. п.)».

Праект новай Канстытуцыі, выпрацаваны камісіяй пад старшынствам таварыша **Сталіна,** цалкам і поўнасцю выражае задачы, пастаўленыя VII Усесаюзным З'ездам Советаў. Праект новай Канстытуцыі Совецкага Саюза з'яўляецца адлюстраваннем заваёў новага соцыялістычнага грамадства, якое створана ў нашай краіне.

У выніку паспяховай барацьбы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з геніяльным маршалам пролетарскай рэволюцыі таварышом **Сталіным,** Совецкі саюз дабіўся велізарных сусветна-гістарычных перамог у барацьбе за соцыялізм. Соцыялізм у нашай краіне перамог канчаткова і беспаваротна. Створана новая соцыялістычная індустрыя. Шматмільённая распыленая аднаасобная сялянская гаспадарка ператворана ў соцыялістычную калгасную гаспадарку. Выраслі і ўмацаваліся соўгасы. Дзякуючы магутнай тэхнічнай узброенасці сельскай гаспадаркі, сельскагаспадарчая праца становіцца разнавіднасцю працы індустрыяльнай. Ліквідаваны эксплаатацкія класы. Рабочы клас стаіць у нашай краіне на чале ўлады, кіруючы ўсім дзяржаўным і гаспадарчым жыццём. Працоўнае сялянства, аб'яднанае ў калгасы, разам з рабочымі будуе соцыялізм. Наша інтэлігенцыя разам з рабочымі і калгаснікамі актыўна прымае ўдзел ў будаўніцтве соцыялістычнага грамадства. Грані паміж класамі сціраюцца. «У нас няма проціпастаўляючых сябе адна другой партый, зусім таксама як у нас няма процістаячых адзін другому класа капіталістаў і класа эксплаатуемых капіталістамі рабочых. Наша грамадства складаецца выключна з свабодных працоўных горада і вёскі—рабочых, сялян і інтэлігенцыі» (Сталін). Соцыялістычная ўласнасць стала моцнай асновай совецкага дзяржаў-

нага і грамадскага ладу. Адсталая ў мінулым аграрная краіна, турма народаў стала перадавой індустрыяльнай соцыялістычнай краінай і краінай самага буйнага ў свеце соцыялістычнага земляробства.

Ленін у сваім выступленні на пленуме Маскоўскага Совета ў 1922 г. геніяльна прадбачыў, што Расія нэпаўская будзе Расіяй соцыялістычнай. На аснове дасягнутых намі велізарных перамог тав. Молатаў на VII З'ездзе Советаў Саюза ССР змог заявіць аб тым, што «Расія нэпаўская ўжо стала Расіяй соцыялістычнай» (а п л а д ы с м е н т ы).

Новая Канстытуцыя, распрацаваная пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, з'яўляецца яскравейшым выражэннем росту і расшырэння базы дыктатуры пролетарыята ў Совецкім Саюзе, яна цалкам адпавядае нашай соцыялістычнай рэчаіснасці і з'яўляецца Канстытуцыяй новага соцыялістычнага грамадства.

У гэтым заключаецца асноўнае сусветна-гістарычнае значэнне сталінскага праекта новай Канстытуцыі Саюза ССР.

## II. СТАЛІНСКАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ—ТРЫУМФ ЛЕНІНСКА-СТАЛІНСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ.

Таварышы, у гэтыя гістарычныя дні ўся наша вялікая соцыялістычная радзіма, усе народы Совецкага Саюза з радасцю і гонарам вітаюць сталінскую Канстытуцыю, якая з'яўляецца трыумфам ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы якой працоўныя Совецкага Саюза паўсталі з цемры мінулага і завявалі сабе светлае і радаснае сучаснае.

Царская Расія з'яўлялася турмой народаў. Таварыш Сталін на X З'ездзе РКП(б) сказаў, што

«РСФСР і звязаныя з ёй совецкія рэспублікі прадстаўляюць каля 140 мільёнаў насельніцтва, з іх невелікаросаў—каля 65 мільёнаў... Палітыка царызма, палітыка памешчыкаў і буржуазіі ў адносінах да гэтых народаў заключалася ў тым, каб убіць сярод іх зародкі ўсякай дзяржаўнасці, калечыць іх культуру, сцясняць мову, трымаць іх у невуцтве і, нарэшце, па магчымасці русіфікаваць іх. Рэзультаты такой палітыкі—няразвітасць і палітычная адсталасць гэтых народаў».

Рускі царызм вёў зацятую палітыку завяявання ўсё новых і новых тэрыторый для ператварэння гэтых тэрыторый у бяспраўныя калоніі рускай буржуазіі.

Дарэволюцыйная Беларусь знаходзілася ў царскай Расіі на становішчы калоніі, у якой бескантрольна панавала адміністрацыйна-паліцэйскае самавольства царскага самаўладдзя.

Вывучэнне дакументаў аб палітыцы царызма на тэрыторыі сучаснай Беларусі паказвае надзвычайна яскравы малюнак эканамічнага, нацыянальнага і палітычнага гнёту з боку царызма, у якім знаходзіліся працоўныя масы дарэволюцыйнай Беларусі.

У 1840 г. Камітэт міністраў даў указанне па «Заходніх губернях» што:

«Государь император зачеркнул название «белорусских и ли-

товских» губерний и соизволил приказать переписать указ о поименовании губерний каждой отдельно—Витебская, Могилевская, Виленская и Гродненская, причем последовало собственноручное высочайшее повеление: «Правила сего держаться и впредь».

Такім чынам, нават сама назва Беларусь была выкрэслена з ужытку царскіх сатрапаў па ўказанню самога цара.

Аднак, на гэтым самадзяржаўная ўлада не супакойвалася. Мураўеў—вешацель у дакладной запісцы на імя цара паведамляў аб тым, што ён ажыццяўляе на тэрыторыі Беларусі—«паўночна-заходнім краі»—наступныя мерапрыемствы для замацавання рускага панавання:

«1. Узмацніць і ўзняць рускую народнасць і праваслаўе, падтрымаць праваслаўнае духавенства, паставіць яго ў становішча незалежных і прывілеяваных;

2. У адносінах агульнага адміністравання прыняць наступныя меры: упарадкаваць такім чынам урадавыя органы края, каб вышэйшыя службовыя пасады і пасады асобных начальнікаў, таксама тыя пасады, якія маюць **непасрэднае** дачыненне да народу, былі-б замешчаны чыноўнікамі рускага паходжання.

3. Школы, адчыняемыя на Беларусі, павінны аставацца ў руках духавенства (у гэтых палітычных камісараў царызма—А. Ч.), а дзе патрабуецца дапамога духавенству, можа быць з асобага дазволу назначана і свецкая».

Царскі ўрад актыўна і настойліва ажыццяўляў каланізацыю заходніх губерняў.

Міністр дзяржаўнай маёмасці Зялёны 5/XI 1862 г. пісаў:

«Асновы каланіяльнай палітыкі—гэта ўсяленне сялян з рускіх губерняў, а яшчэ больш асноўнае—рускіх памешчыкаў і нават прыбалтыйскіх, заслугоўваючых поўнага давер'я ўрада».

Падтрымліваючы ўсякімі спосабамі рускіх памешчыкаў, буржуазію, царскі ўрад пільна сачыў за тым, каб папярэдзіць малейшую магчымасць канкурэнцыі для расійскіх прамыслоўцаў. «Акраіны Расіі», у тым ліку і Беларусь, разглядаліся заўсёды як калоніі—пастаўшчыкі сыравіны, дзяшовай рабочай сілы і як рынкі збыту прадуктаў рускай прамысловасці.

Вось чаму трэба лічыць зусім не выпадковым і тое, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі вельмі слаба развівалася прамысловасць. Яшчэ ў 1885—1888 гадах у Пецярбургу пад непасрэдным старшынствам Александра III адбываліся нарады, якія мелі на мэце «абдумаць і магчыма хутчэй увесці ў жыццё мерапрыемствы для абароны расійскай жалезаапрацоўчай прамысловасці: выпрацаваць праект мерапрыемстваў, які павінен быць ужыт у межах заходняй пагранічнай паласы для папярэджання далейшага развіцця існуючых там і гатовых узнікнуць жалезных заводаў і фабрык, працуючых на замежных матэрыялах».

З гэтай-жа мэтай у 1886 годзе была пасланя ў «Прывісленскі край» спецыяльная камісія з прафесарам Янжулам на чале, якому было даручана «высвятліць, у якіх умовах знаходзяцца здабываючая і апрацоўчая прамысловасць гэтай краіны і якія меры павінны быць ужыты супроць далейшага развіцця польскай фа-

брычнай прамысловасці для ўраўнання ўзаемных шансаў канкурэнцыі фабрык цэнтральнай Расіі і Прывісленскага края».

Такім чынам, палітыка царызма ператварыла Беларусь як і іншыя акраіны былой царскай Расіі ў аграрную калонію, крыніцу сыравіны, дзяшовых рабочых рук і рынак збыту для прамысловых тавараў, выпрацоўваемых на прадпрыемствах рускіх капіталістаў.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя звергнула памешчыкаў, капіталістаў, разбіла ланцугі нацыянальна-каланіяльнага гнёту і вызваліла ад яго ўсе без выключэння прыгнечаныя народы старой царскай Расіі.

Адразу-ж пасля перамогі пролетарскай рэволюцыі перад комуністычнай партыяй і совецкай уладай паўстала грандыёзная задача—дапамагчы працоўным масам невелікарускіх народаў ліквідаваць тую фактычную няроўнасць у гаспадарчым і культурным становішчы нацыянальнасцей Совецкага Саюза, прычына якой крыецца не толькі ў гісторыі гэтых народаў, але і ў палітыцы царызма і рускай буржуазіі, якая імкнулася ператварыць акраіны ў выключна сыравінныя раёны, эксплаатуемыя прамыслова-развітымі цэнтральнымі раёнамі.

У рэзалюцыі X З'езда партыі па дакладу таварыша **Сталіна** «Аб чарговых задачах партыі ў нацыянальным пытанні» гаворыцца:

«Цяпер, калі памешчыкі і буржуазія звергнуты, а совецкая ўлада абвешчана народнымі масамі і ў гэтых краінах, задача партыі заключаецца ў тым, каб дапамагчы працоўным масам невелікарускіх народаў дагнаць пайшоўшую ўперад цэнтральную Расію, дапамагчы ім: а) развіць і ўмацаваць у сябе совецкую дзяржаўнасць у формах, адпавядаючых нацыянальна-бытавым умовам гэтых народаў; б) развіць і ўмацаваць у сябе дзейнічаючыя на роднай мове суд, адміністрацыю, органы гаспадаркі, органы ўлады, складзеныя з людзей мясцовых, ведаючых быт і псіхалогію мясцовага насельніцтва; в) развіць у сябе прэсу, школу, тэатр, клубную справу і наогул культурна-асветныя ўстановы на роднай мове; г) паставіць і развіць шырокую сетку курсаў і школ як агульнаадукацыйнага, так і прафесіянальна-тэхнічнага характару на роднай мове (у першую чаргу для кіргізаў, башкіраў, туркменаў, узбекаў, таджыкаў, азербайджанцаў, татараў, дагестанцаў) для паскоранай падрыхтоўкі туземных кадраў кваліфікаваных рабочых і совецка-партыйных работнікаў па ўсіх галінах кіраўніцтва і перш за ўсё ў галіне асветы».

І мы бачым, таварышы, як пад геніяльным кіраўніцтвам таварышоў Леніна і Сталіна паслядоўна ажыццяўляюцца мерапрыемствы, накіраваныя на поўнае знішчэнне прававых абмежаванняў розных нацыянальнасцей, на перамаганне фактычнай няроўнасці ў гаспадарчым і культурным становішчы гэтых нацыянальнасцей.

Такі дакумент, як «Дэкларацыя правоў народаў Расіі», напісаны саратнікам вялікага Леніна таварышом **Сталіным** і надрукаваны 15(2) лістапада 1917 года за подпісамі Леніна і Сталіна,

увайшоў як складаная частка будучых канстытуцый Савецкага Саюза і ўсіх савецкіх рэспублік.

Першы перыяд дыктатуры пролетарыята, названы Леніным «Трыумфальным ходам савецкай улады», атрымаў сваё яскравае адлюстраванне ў двух асноўных рашэннях III З'езда Саветаў: «Дэкларацыі правоў працоўных і эксплаатуемых народаў» і ў пастанове з'езда «Аб федэральных установах Расійскай рэспублікі».

Таксама-ж за подпісамі таварышоў Леніна і Сталіна выходзяць адозвы «Да ўсіх працоўных мусульман Расіі і Ўсхода», «Аб турэцкай Арменіі», «Аб федэральных установах Расійскай рэспублікі», якія, як вядома, адыгралі велізарнейшую ролю ў гісторыі вызвалення працоўных ад буржуазнай эксплаатацыі і атручваючага ўплыву контррэволюцыйнага нацыяналізма.

Упершыню ў гісторыі чалавецтва гэтыя народы падняліся пад сцягам комуністычнай партыі і савецкай улады да становішча свабодных, роўнапраўных народаў.

Ацэньваючы гэты перыяд работы, таварыш **Сталін** пісаў наступнае:

«Звергнуўшы памешчыкаў і капіталістаў, Кастрычніцкая рэволюцыя разбіла ланцугі нацыянальна-каланіяльнага гнёту і вызваліла ад яго ўсе без выключэння прыгнечаныя народы абшырнай дзяржавы... Характэрнай рысай Кастрычніцкай рэволюцыі з'яўляецца той факт, што яна правяла ў СССР гэтыя нацыянальна-каланіяльныя рэволюцыі не пад сцягам нацыянальнай варожасці і міжнацыянальных сутычак, а пад сцягам узаемнага давер'я і брацкага зблíжэння рабочых і сялян нацыянальнасцей СССР, не ў імя нацыяналізма, а ў імя інтэрнацыяналізма.

Іменна таму, што нацыянальна-каланіяльныя рэволюцыі адбыліся ў нас пад кіраўніцтвам пролетарыята і пад сцягам інтэрнацыяналізма, іменна з гэтай прычыны народы—парыі, народы—рабы ўпершыню ў гісторыі чалавецтва падняліся да становішча народаў, сапраўды свабодных і сапраўды роўных, заражаючы сваім прыкладам прыгнечаныя народы ўсяго свету».

Трэба асабліва падкрэсліць велізарнае значэнне ўказання таварыша Сталіна аб тым, што сапраўднае вызваленне прыгнечаных народаў магло адбыцца толькі пад кіраўніцтвам пролетарыята і толькі на аснове ўстанаўлення ўзаемаадносін паміж працоўнымі розных нацыянальнасцей, на аснове пролетарскага інтэрнацыяналізма. Гэтае ўказанне мае тым большае значэнне, што нам усім памятны спробы буржуазных нацыяналістаў усіх масцей раздзяліць старую царскую Расію на асобныя нацыянальныя часткі для таго, каб аслабіць уплыў пролетарыята, для таго, каб захапіць уладу ў свае рукі, падмяніўшы пануючае становішча рускай буржуазіі пануючым становішчам буржуазіі мясцовай, нацыянальнай і праз гэта абараніцца ад няўхільнага, гістарычнага ходу перамагаючай рэволюцыі.

Наша комуністычная партыя і ўрад Савецкага Саюза, кіруемыя Леніным і Сталіным, паставілі супроць буржуазнага сама-

вызначэння—самавызначэнне пролетарскае, самавызначэнне совецкае, не ў імя нацыяналізма, а ў імя інтэрнацыяналізма. І таму ленінска-сталінская нацыянальная палітыка, знайшоўшая адлюстраванне ў дзяржаўным жыцці, гаспадарчым і культурным будаўніцтве Совецкага Саюза, з'явілася асноўнай зарукай перамог Совецкага Саюза ў барацьбе за соцыялізм, з'явілася зарукай ліквідацыі няроўнасці былых акраін царскай Расіі.

Перыяд ад арганізацыі Совецкага Саюза да агалашэння праекта новай сталінскай Канстытуцыі з'яўляецца пераможным перыядам росту і росквіту ўсіх нацыянальных рэспублік і абласцей Совецкага Саюза. У рэзультаце першай пяцігодкі Совецкі Саюз у асноўным ажыццявіў зжыванне фактычнай няроўнасці гэтых абласцей. Другая пяцігодка, пяцігодка пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства ліквідавала рэшткі эканамічнай і культурнай адсталасці ўсіх рэспублік і абласцей Совецкага Саюза.

Калі мы, таварышы, сёння перакінемся з Совецкай Беларусі ў любую совецкую соцыялістычную рэспубліку ці вобласць, то ўбачым, што не толькі Совецкая Беларусь, але і кожная з гэтых нацыянальных рэспублік і абласцей Совецкага Саюза сустракае сталінскую Канстытуцыю заявамі аб тым, што няма больш адсталых калоній рускага царызма, а ёсць роўнаправаўныя, квітнеючыя рэспублікі і вобласці, стварыўшыя новую соцыялістычную сучаснасць на аснове ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі (г у ч н ы я  а п л а д ы с м е н т ы). І гэта па праву дало магчымасць вялікаму пролетарскаму пісьменніку Анры Барбюсу назваць Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік сузор'ем нацыянальнасцей. Совецкі Саюз і ёсць яскравае сузор'е нацыянальнасцей, які вогненым прызыўным святлом свеціць працоўным усяго свету, вогненым блескам асвятляе працоўным усяго свету шлях барацьбы супроць капіталістаў і служыць прызыўным маяком, узнімаючым энергію і волю на апошні і рашаючы бой супроць капітала (а п л а д ы с м е н т ы).

## III. У БРАЦКАЙ СЯМ'І НАРОДАЎ БССР ЗАЙМАЕ ПАЧЭСНАЕ МЕСЦА.

Таварышы, мы з радасцю і гонарам адзначаем сёння тое, што Совецкая Беларусь заўсёды была верным аплотам комуністычнай партыі і Совецкага Саюза ў барацьбе супроць капіталістычнага свету, у барацьбе за ўмацаванне совецкай улады, у барацьбе за пабудову соцыялістычнага грамадства.

З першых-жа дзён Кастрычніцкай рэволюцыі працоўныя масы Беларусі ўсей сваёй істотай і пачуццямі зразумелі, што адзіна верны шлях, які забяспечвае верную дарогу да вызвалення, да стварэння новага жыцця—гэта шлях большэвіцкай партыі, шлях совецкай улады, шлях правадыроў народаў Леніна і Сталіна (а п л а д ы с м е н т ы).

Вывучэнне дакументаў 1917—1920 і іншых гадоў яскрава сведчыць аб тым, што працоўныя масы Беларусі ўвесь час цвёрда стаяць на глебе цеснай сувязі і яднання з рускім пралетарыятам і працоўнымі масамі Расіі. Усе спробы беларускіх контррэвалюцыянераў—нацыянал-дэмакратаў адарваць Савецкую Беларусь ад іншых савецкіх рэспублік пацярпелі крах, у першую чаргу таму, што беларускі народ ішоў цвёрда пад сцягам камуністычнай партыі і не верыў гэтым імперыялістычным агентам, беларускім нацдэмам—гэтаму перадавому атраду кулацкай контррэвалюцыі.

Адразу-ж пасля прызнання Савецкай Беларусі незалежнай, 1 Ўсебеларускі З'езд Саветаў у сваёй дэкларацыі ад 3 лютага 1919 года заявіў, што «толькі свабодны добраахвольны Саюз працоўных усіх незалежных савецкіх рэспублік забяспечвае таржаство рабочых і сялян у іх барацьбе з усім астатнім капіталістычным светам». З'езд Саветаў Беларусі прызнаў неабходнай федэратыўную сувязь Савецкай Беларусі з Расійскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай.

Калі ў 1922 годзе было ўзнята пытанне аб стварэнні Савецкага Саюза, то Савецкая Беларусь была ў ліку першых, прызнаўшых неабходнасць такой арганізацыі. 16 снежня 1922 года, г. зн. 14 гадоў таму назад, IV З'езд Саветаў БССР па пытанню аб арганізацыі Савецкага Саюза пастанавіў:

«IV Усебеларускі З'езд Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў лічыць, што прапанова Ўсеўкраінскага З'езда Саветаў аб неадкладным афармленні ўжо фактычна існуючага Саюза ССР... адпавядае жыццёвым патрэбам Савецкай Беларусі і таму як мага хутчэй павінна быць ажыццёўлена на надыходзячым З'ездзе ўсіх рэспублік».

І сёння, таварышы, мы з радасцю і гонарам адзначаем, што шлях аб'яднання савецкіх рэспублік, які быў прадбачан геніяльнымі правадырамі нашай партыі Леніным і Сталіным, цалкам забяспечыў выкананне пастаўленых перад намі задач.

## IV. БССР СУСТРАКАЕ СТАЛІНСКУЮ КАНСТЫТУЦЫЮ З ВЯЛІКІМІ ПЕРАМОГАМІ І ГАРЫЦЬ ЯРКАЙ ЗОРКАЙ У СУЗОР'І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ СССР.

Асаблівую радасць і гонар у гэтыя дні адчуваюць працоўныя Савецкай Беларусі за сваю вялікую сацыялістычную радзіму—Савецкі Саюз, за перамогі ў барацьбе за сацыялізм, за новае радаснае жыццё, створанае на аснове перамогі сацыялізма, на аснове ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

З занялалай і беднай калоніі царызма, працоўныя масы якой былі асуджаны на выміранне, Савецкая Беларусь ідзе да зацверджання сталінскай Канстытуцыі як краіна сацыялістычнай прамысловасці, сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, сацыялістычнай культуры мільёнаў актыўных і свядомых будаўнікоў сацыя-

лізма, стаўшы раўнапраўнай, неадрыўнай і перадавой часткай Вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Дзякуючы вялікай дапамозе з боку Совецкага Саюза, якую на працягу ўсяго часу атрымлівалі і атрымліваюць працоўныя Совецкай Беларусі, непазнавальна змяніўся твар нашай Рэспублікі.

Усе гэтыя змены сведчаць аб тым, што ў дні, калі Совецкі Саюз абмяркоўвае і прыступае да зацверджання праекта сталінскай Канстытуцыі, Совецкая Беларусь у сузор'і нацыянальнасцей гарыць яркай зоркай, гарыць яркім святлом, з'яўляючыся адным з бліскучых прыкладаў ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Мы, таварышы, у сваіх дакладах часта злоўжываем лічбамі, але для нас гэтыя лічбы не з'яўляюцца сухімі. За імі скрываюцца нашы перамогі, скрываюцца нашы дасягненні ў барацьбе за соцыялізм. Яны ёсць вынік штодзённай упартай барацьбы, якую мы вялі і вядзем за справу соцыялізма. І вось, маючы гэта на ўвазе, я думаю, таварышы, што вы не будзеце крыўдзіцца на мяне, калі я сёння ў гэты ўрачысты дзень прывяду вам некалькі лічбаў для характарыстыкі поспехаў і дасягненняў Совецкай Беларусі.

Нашы поспехі ў галіне прамысловасці набываюць асабліва яскравы паказальны характар, калі мы праводзім паралель паміж становішчам старой Беларусі і становішчам сучаснай Беларусі.

Структура прамысловасці дарэволюцыйнай Беларусі насіла тыпова-каланіяльны характар. Яна складалася з дробных паўсаматужных і саматужных прадпрыемстваў і звыш 90 проц. валавой прадукцыі падала на харчовую і лёгкую прамысловасці. У цэлым радзе раёнаў зусім не было прамысловых прадпрыемстваў. Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці на тэрыторыі сучаснай БССР у 1913 г. складала 99,9 млн. рублёў пры 22.000 рабочых. На адно прадпрыемства прыпадала ў сярэднім 140 тыс. рублёў валавой прадукцыі і 20—30 рабочых.

Зруйнаванні, нанесеныя нашай краіне імперыялістычнай вайной і нападамі інтэрвентаў, прывялі да таго, што ў 1921 г.—у першы год мірнага будаўніцтва пасля вызвалення ад белапольскай акупацыі, прамысловая прадукцыя складала толькі 20 млн. руб., г. зн. скарацілася ў параўнанні з 1913 годам у 5 разоў. Колькасць рабочых упала да 13 тыс. чалавек.

Паспяховае ажыццяўленне палітыкі партыі па ліквідацыі эканамічнай і культурнай адсталасці былой акраіны царскай Расіі забяспечыла ўжо ў 1926—27 годзе перавышэнне даваеннага ўзроўню прадукцыі цэнзавай прамысловасці (129,1 млн. руб. супроць 99,9 млн. руб. у 1913 годзе).

Совецкі Саюз забяспечвае для БССР высокія тэмпы развіцця соцыялістычнай прамысловасці, якія ў першай пяцігодцы перавышалі больш чым у два разы сярэднія тэмпы па Совецкаму Саюзу (сярэдні гадавы прырост валавой прадукцыі прамысло-

васці па Совецкаму Саюзу ў першай пяцігодцы складаў 21 проц., а па Совецкай Беларусі—49 проц.).

Велізарныя зрухі ў народнай гаспадарцы БССР, якія адбыліся ў выніку паспяховага выканання пяцігодкі ў чатыры гады, маюць выражэнне перш за ўсё ў індустрыялізацыі нашай рэспублікі.

За перыяд першай пяцігодкі ў Совецкай Беларусі створаны зусім новыя галіны прамысловасці: машына-будаўнічая, хімічная, трыкатажная, тлушчавая, тарфяная і іншыя; створаны буйныя прадпрыемствы з новай складанай тэхнікай; ужо ў сярэдзіне першай пяцігодкі канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элементы ў прамысловасці; у асноўным закончан працэс вытворчага кааперавання саматужнікаў у горадзе і ў вёсцы. На аснове ўсяго гэтага адбыўся велізарны рост прамысловай прадукцыі.

Для характарыстыкі гэтага становішча, даволі прывесці наступныя лічбы. Калі параўнаць валавую прадукцыю даваеннага часу з валавой прадукцыяй 1936 г., то атрымліваецца, што валавая прадукцыя прамысловасці БССР у 1936 г. перавышае валавую прадукцыю прамысловасці даваеннага часу ў 18 разоў. Ва ўсёй прамысловасці валавая прадукцыя дасягнула ў 1932 г. 979,5 млн. рублёў супроць 241,2 млн. рублёў у 1927—28 годзе. Такім чынам, валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці БССР вырасла за 5 год у 4 разы. Дзяржаўная прамысловасць павялічыла сваю прадукцыю на 343,2 проц. Далейшае прамысловае будаўніцтва ў гады другой пяцігодкі прывяло да карэнных змен у прамысловасці БССР.

Гэтыя лічбы бліскуча характарызуюць пераможны шлях Совецкай Беларусі ў галіне індустрыялізацыі:

**Валавая прадукцыя прамысловасці БССР у нязменных цэнах 1926/1927 гг. (у млн. руб.).**

| | 1913 г. | 1921 г. | 1927-28 г. | 1932 г. | 1936 г. (чак. вык). | 1937 г. план. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго . . . | 99,9 | 20,0 | 241,2 | 979,5 | 1.820 | 2.220 |
| Павялічэнне ў параўнанні з 1913 годам, які прыняты за 100 (Колькасць разоў). | 1,0 | 0,2 | 2,4 | 9,8 | 18,2 | 22,2 |

Калі ўзяць асноўныя фонды прамысловасці БССР 1927 года за 100, то яны будуць складаць у 1932 годзе 398,1, у 1935—543,4 і ў 1937 г. (чакаем.)—867.

Колькасць рабочых па ўсёй прамысловасці БССР замест 22 тыс. у 1913 г. павялічылася да 258 тыс. у 1935 г. або ў 12 разоў.

Вельмі важна пры гэтым адзначыць значны рост магутнасці

электрастанцый і вытворчасці электраэнергіі ў нашай краіне. Тэмпы росту Совецкай Беларусі ў гэтай галіне таксама значна перавышаюць тэмпы росту Совецкага Саюза.

Так, магутнасць электрастанцый па Совецкаму Саюзу ў 1936 г. павялічылася ў 4,8 разы ў параўнанні з 1927—28 годам, а па БССР за гэты-ж перыяд павялічылася ў 6,7 разоў. Выпрацоўка электраэнергіі па Совецкаму Саюзу ў 1935 г. павялічылася ў 16,5 разоў у параўнанні з 1913 г., а па БССР за гэты-ж перыяд павялічылася ў 90 разоў. Бачыце, якія каласальныя тэмпы і адсюль велізарныя вынікі нашай работы.

Дзякуючы гэтым поспехам у галіне прамысловага будаўніцтва карэнным чынам змянілася эканамічная аснова Совецкай Беларусі. Надзвычайна паднялася ўдзельная вага прамысловай прадукцыі ў ліку агульнай прадукцыі народнай гаспадаркі БССР. Вось чаму мы ўсюды з гонарам заяўляем на ўвесь свет аб тым, што няма больш адсталай, аграрнай старой Беларусі, а ёсць новая Беларусь, Беларусь соцыялістычнай прамысловасці, Беларусь, дзе прадукцыя прамысловасці іграе вядучую ролю, ёсць Беларусь соцыялістычная, Беларусь індустрыяльна-калгасная (а п л а д ы с м е н т ы).

У 1926—27 годзе прадукцыя прамысловасці складала 24,4 проц., прадукцыя сельскай гаспадаркі—75,6 проц., у 1932 г. адпаведна 67 і 33 проц., у 1936 г.—76,1 і 23,9 проц.

У 1913 г. аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці ў цэнах 1926—27 года складаў 99,9 млн. руб., у 1936 г. аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці БССР чакаецца ў гэтых-жа цэнах у суме 1.820 млн. руб., г. зн. у 18,2 раза больш чым у 1913 г.

Гісторыя барацьбы за соцыялістычную прамысловасць—гэта ёсць гісторыя гераічных намаганняў рабочага класа, які з першых-жа дзён стаяў на пасту па захаванню, па аднаўленню прамысловасці, па яе развіццю, па падняццю прадукцыйнасці нашай прамысловасці.

У барацьбе за соцыялізм рабочы клас Беларусі вырас колькасна, ён яшчэ больш узмацніў сваю класавую свядомасць і палітычную актыўнасць.

У выніку гэтага мы бачым, што ў вялікім стаханаўскім руху, які забяспечвае велізарныя магчымасці далейшага развіцця прамысловасці і павелічэння прамысловай прадукцыі, Совецкая Беларусь стаіць у раду перадавых рэспублік і абласцей Совецкага Саюзу.

Калі на 1/IX 1935 г., як учора гаварыла наша слаўная стаханаўка т. **Кісялёва,** па ўсёй прамысловасці БССР налічвалася 11 проц. стаханаўцаў, то на 1/IX 1936 г. колькасць іх паднялася да 32,9 проц. да ўсяго ліку рабочых прамысловасці.

Імёны такіх стаханаўцаў як т. т. **Скабло, Лучкоўскі, Рушко, Знак Алесь, Кісялёва** (а такіх Совецкая Беларусь мае дзесяткі і сотні) вядомы не толькі Совецкай Беларусі, але і ўсяму Совецкаму Саюзу. Гэта знатныя людзі, гэта героі соцыялістычнай прамысловасці (а п л а д ы с м е н т ы).

Вельмі важна адзначыць тое, што на аснове развіцця прамысловасці ў БССР створаны новыя пролетарскія кадры з ліку карэннага беларускага насельніцтва. Рабочыя беларусы складаюць ужо 69,5 проц. у параўнанні з усёй колькасцю рабочых, прычым у такіх галінах як: тарфяная, электрычная, сілікатная, керамічная, папяровая, тэкстыльная—колькасць рабочых беларусоў ужо перавышае 75 проц.

Яшчэ больш рашучымі і карэннымі зменамі мы сустракаем сталінскую Канстытуцыю ў галіне сельскай гаспадаркі. Дарэволюцыйная Беларусь, як вядома, славілася, з аднаго боку, буйнымі памешчыкамі, а з другога, велізарнай колькасцю малазямельнага і беззямельнага сялянства. 2.026 памешчыкаў дарэволюцыйнай Беларусі мелі ў сваім уладанні 7.605 тыс. дзесяцін зямлі. На памешчыкаў працавала 200 тыс. пастаянных батракоў, апрача сотняў тысяч сезонных і падзённых рабочых. Сярод гэтых феадальных уладароў выдзяляліся Радзівілы, меўшыя на тэрыторыі Менскай губерні 204 тыс. дзесяцін, княгіня Гогенлое, меўшая на Случчыне 120 тыс. дзесяцін, на Мазыршчыне 220 тыс., на Бабруйшчыне 200 тыс. і па ўсёй Менскай губерні 711 тыс. дзесяцін, Тышкевіч, Патоцкія, Празор, Шэпеле, Радзянка, Вітгенштэйн, Пуслоўскі і некаторыя іншыя. Вось жменька магнатаў, якая трымала ў сваіх руках каля 30,5 проц. зямель толькі па Менскай губерні. Такім чынам, гэтыя 8 памешчыкаў уладалі такой колькасцю зямлі, колькі мелі 106 тыс. сялянскіх двароў.

Зусім зразумела, што пры такім размеркаванні зямлі жылося добра толькі кулацка-заможнай частцы беларускай вёскі. Асноўная-ж маса бядняцка-серадняцкага сялянства не магла пракарміцца на сваёй зямлі, а таму вымушана была шукаць заработкаў на старане. Тысячы і дзесяткі тысяч беднякоў з гарадоў, мястэчак і вёсак Беларусі ехалі і ў Сібір, і ў Амерыку шукаць лепшага жыцця, але і там яны шчасця сабе не знаходзілі і многія варочаліся такімі-ж самымі і нават горшымі беднякамі. За час з 1896 па 1915 г. перасялілася ў Сібір з Беларусі 642 тыс. чал. і эмігрыравала ў Амерыку каля 800 тыс. чалавек.

Зусім зразумела, што і тэхніка сельскай гаспадаркі была зусім прымітыўнай, амаль што першабытнай. Нават яшчэ ў 1924 годзе мелася ў Беларусі, як сумная спадчына мінулага, каля 129.416 сох і так званых смыкоў. Моладзь мабыць не ведае, што такое смык. Ёсць смык, якім на скрыпцы граюць і быў смык, якім зямлю калупалі.

У рэзультаце поспехаў соцыялістычнай індустрыялізацыі, дзякуючы дапамозе працоўным Беларусі з боку рабочага класа Совецкага Саюза, дзякуючы тэхнічнай аснашчонасці і тэхнічнай пераўзброенасці сельскай гаспадаркі, бязлітаснай барацьбе супроць кулацтва і іншых ворагаў працоўных, сельская гаспадарка БССР ператварылася з гаспадаркі адсталай, дробнай, аднаасобнай у передавую калгасную соцыялістычную гаспадарку.

Кастрычніцкая рэволюцыя ўшчэнт знішчыла памешчыцка-кулацкае землекарыстанне. Памешчык—гэта адно з найбольш ненавісных слоў, якое асталося ў памяці нашай беларускай вёскі.

Дарэмна думае княгіня Гогенлое, граф Патоцкі, Тышкевіч і іншыя, што, уцёкшы з тэрыторыі Савецкай Беларусі на тэрыторыю панскай Польшчы, яны гэтым самым выратаваліся ад народнага гневу, ад пралетарскай рэвалюцыі.

Але мы ведаем, што і там працоўны народ з такой-жа нянавісцю адносіцца да гэтых паноў, з якой адносіцца, успамінаючы аб іх наш працоўны народ і мы ведаем і верым у тое, што расправа з гэтымі панамі за тую лютасць, якую яны ўчынялі і ўчыняюць над працоўнымі горада і вёскі, немінуча ідзе і прыдзе.

Землі, аднятыя ад паноў, памешчыкаў, кулакоў, духавенства, з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю і перадазы ў карыстанне працоўных мас сялянства.

На 1 лістапада 1936 года ў калгасы ўступіла 86,8 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, арганізаваўшых 9.628 калгасаў. Калі раней працоўныя сяляне ўсё сваё жыццё марылі аб тым, каб набыць сабе лішні кавалак зямлі і, звычайна правёўшы сваё гаротнае жыццё, канчалі тым, што, надарваўшы сваё здароўе, вымушаны былі зноў за даўгі прадаваць набытую зямлю, то ў сучасны момант дзяржаўная зямля перадана ў вечнае карыстанне калгасаў і спрадвечныя мары працоўнага сялянства аб зямлі знайшлі сваё поўнае задавальненне (гучныя апладысменты).

Дзяржаўная зямля перадана па актах на вечнае карыстанне нашых калгасаў (гучныя апладысменты).

У Беларусі існуе 9.628 калгасаў і ўжо выдана на вечнае карыстанне зямлёй 9.628 актаў, г. зн. на ўсе 100 проц. (гучныя апладысменты).

Саха і смык даўно ўжо сталі здабыткам гісторыі і іх можна знайсці мабыць толькі ў музеі. Сельская гаспадарка—калгасы і соўгасы Беларусі ўзброены магутнай тэхнікай; на калгасных і соўгасных палях гудуць тысячы трактароў, працуюць складаныя і поўскладаныя машыны. На канец 1936 года ў БССР ужо існуе 144 МТС з колькасцю 6.277 трактароў, з якіх 434 магутных гусенічных. У 1937 годзе будзе існаваць яшчэ больш—157 МТС з колькасцю 7.421 трактароў, з якіх 1.234 гусенічных.

Калі мы перавядзем магутнасць трактароў на магутнасць электрастанцый, то ўбачым, што магутнасць трактарнага парка БССР раўняецца магутнасці 4-х электрастанцый, роўных па магутнасці Белдрэсу, г. зн., што нашы трактары ў пераводзе на конскую сілу даюць 136 тыс. конскіх сіл.

У калгасах, абслугоўваемых МТС, механізаваныя работы складаюць: па веснавому ворыву—21,8 проц., па пасеву зернавых—12,9 проц., па зяблеваму ворыву—54 проц., па ўборцы льну—18 проц., па малацьбе—39 проц. і па ўзорванню пад азімыя—40,9 проц.

З гэтага відаць, што механізацыя сельскагаспадарчых работ усё больш павялічваецца і сельскагаспадарчая праца становіцца рознавіднасцю працы індустрыяльнай.

У руках калгасаў беларускія землі перастаюць быць неўраджайнымі. Дзякуючы ўпартай барацьбе за ўраджайнасць мы ў

цэлым радзе раёнаў маем вельмі значныя поспехі. Праўда, таварышы, лічыць гэтыя рэзультаты канчатковымі нельга. Гэта відаць хаця-б з таго, што асобныя калгасы і асобныя звенні ў гэтых калгасах значна перавысілі так званыя рэкордныя ўраджаі. Мы ставім перад сабой задачу, каб ва ўсіх нашых калгасах, ва ўсіх брыгадах, ва ўсіх звеннях нашых калгасаў—усюды былі толькі рэкордныя ўраджаі (гучныя апладысменты).

Высокія ўраджаі, якіх дабіліся працоўныя Совецкай Беларусі, рабочыя нашых соўгасаў, нашы калгаснікі, з усёй відавочнасцю абверглі паклёпы нашых ворагаў аб неўраджайнасці беларускіх зямель. Гэтыя паклёпы выдумваліся ворагамі працоўнага народа для таго, каб падмануць гэты народ на выезд з Беларусі. Перадавыя калгаснікі, перадавыя рабочыя соўгасаў, даказалі, што ва ўмелых руках наша зямелька можа даваць высокія ўраджаі, што няма дрэннай зямлі, а ёсць дрэнныя гаспадары.

Совецкая Беларусь мае ўсе ўмовы для таго, каб далёка перавысіць нават тыя нормы ўраджаю, якіх на сёнешні дзень мы дабіліся ў перадавых калгасах. Нам трэба на справе даказаць і мы абавязаны даказаць, што Совецкая Беларусь, якая з'яўляецца фарпостам Совецкага Саюза на мяжы з капіталістычным светам, ёсць і будзе перадавым атрадам у барацьбе за хутчэйшае ажыццяўленне лозунга таварыша **Сталіна** аб тым, каб даць Краіне советаў у бліжэйшыя 2—3 гады 7—8 млрд. пудоў зярна штогодна (гучныя апладысменты).

У нас у сельскай гаспадарцы значна пашырыліся тэхнічныя культуры і паднялася іх ураджайнасць.

Аднак, і гэтыя поспехі яшчэ не дастатковы. Лён, які з'яўляецца залатым фондам нашай рэспублікі, заваяваў ужо сабе права грамадзянства. Замест 72.000 га ільну, якія сеяліся ў дарэволюцыйныя часы, у 1936 годзе сеецца 250 тыс. га. Удзельная вага Беларусі ў ільняной плошчы Саюза ССР складае 10,6 проц., г. зн., што БССР па культуры ільну мае вельмі важнае значэнне ў Совецкім Саюзе.

Па плошчы ільну мы займаем трэцяе месца пасля Калінінскай і Заходняй абласцей. У БССР выцясняецца просты лён і замяняецца сартавым. Паднімаецца ўраджайнасць ільну. Гэта сведчыць аб тым, што лён у сельскай гаспадарцы займае ўсё больш пачэснае месца. У цэлым радзе раёнаў і калгасаў мы дабіліся вельмі высокіх ураджаяў ільну. Звыш 300 калгасных звеннявых змагаліся за атрыманне 10 цэнтнераў ільнавалакна з га.

Калгасніца Мініна з калгаса «Май», Чачэрскага раёна, працуючы па-стаханаўску, атрымала са свайго ўчастка з аднаго га 13,1 цэнтнера ільна-валакна, даўшы дзяржаве лён 13—26 нумару.

Калгасніца Лазарэнка з калгаса імя Сталіна, Чавускага раёна, атрымала на сваім участку 11,5 цэнтнера ільнавалакна з га. Калгас «Юны мір», Дрысенскага раёна, засеяў 100 га. За зданы лён ён атрымаў 110 тыс. руб. даходаў, размеркаваўшы іх сярод калгаснікаў. Адсюль значна павялічыліся грашовыя даходы калгас-

нікаў. Сям'я калгасніка Караленка толькі авансам атрымала 1.842 руб., сям'я калгасніка-ударніка Шубара—1.575 руб.

Такім чынам, ясна відаць, што ў тых калгасах, дзе ідзе сапраўды большэвіцкая барацьба за лён, там мы дабіліся вялікага большэвіцкага сталінскага ўраджаю, там лён сапраўды становіцца асноўным сродкам узбагачэння і ўмацавання калгасаў, там лён становіцца вельмі значным элементам у барацьбе за заможнае жыццё саміх калгаснікаў.

Але ў нас яшчэ не ўсё зроблена для здачы рэспубліцы сапраўды высокаякаснага ільну, для атрымання ўраджаю ільну не ніжэй 5—6 цэнтнераў з га, не ўсё зроблена, каб даваць ільноволакно не ніжэй як 16, 18, 20 і значную частку 26 нумару (а п л а д ы с м е н т ы).

Ад каго гэта залежыць? Гэта залежыць, таварышы, толькі ад нас саміх, ад нашай работы, ад нашай барацьбы, ад нашых сумленных адносін да сваіх абавязкаў. Дзяржава дала нам зямлю, тэхніку, угнаенне, дапамагла арганізаваць людзей, рыхтуе кадры, усё ў нас ёсць, трэба толькі аддана працаваць для вырашэння гэтай пачэснай задачы.

У галіне жывёлагадоўлі нашы калгасы таксама маюць значныя поспехі. У параўнанні з 1932 годам колькасць жывёлы ў калгасах павялічылася ў некалькі разоў. Па буйнай рагатай жывёле на 313,4 проц., па свіннях—на 263,8 проц. і толькі па авечках мы пакуль што яшчэ не дасягнулі 1928 года.

Побач з ростам калгасных жывёлагадоўчых ферм ідзе буйны рост жывёлагадоўчага стада, належачага самім калгаснікам.

Выконваючы ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што кожны калгаснік павінен мець сваю карову, урад Совецкай Беларусі, пачынаючы са жніўня 1933 года, перадаў калгаснікам у асабістае карыстанне 100 тыс. цёлак. Калі ў 1934 г. на сто калгасных двароў у асабістым карыстанні знаходзілася 350 штук рознай жывёлы, то ў 1936 г. прыходзіцца ўжо 616.

Таварышы, гэтыя сухія лічбы раскрываюцца, калі мы падыходзім да канкрэтных фактаў. Зайдзіце сёння ў любую калгасную хату (а ўжо сёння, мне думаецца, калгасныя хаты так па новаму перабудаваліся, што слова хата можна выкрэсліць і сказаць «калгасны дом») і вы знойдзеце, што ў кожным калгасным двары на справе выконваецца пункт статута аб развіцці жывёлагадоўлі. Кожны калгасны двор зараз мае карову, свінню, авечку, птушак і іншае, бо для ўсіх іх хапае кармоў і ёсць усе ўмовы для гадоўлі ўсякай жывёлы. Жывёлу, птушак разводзяць калгаснікі і гэта можна ўбачыць, паглядзеўшы на тучныя стады, якія пасуцца на нашых пасьбішчах і палях.

Таварышы, самае галоўнае заключаецца ўсё-ж у тым, што барацьба за калгасы выкавала ў Беларусі кадры зусім новых людзей. Замест селяніна аднаасобніка, бедняка і серадняка выкаваліся калгаснікі і калгасніцы, стаханаўцы і стаханаўкі, якія

з'яўляюцца моцнай апорай совецкай улады ў вёсцы, якія аддана змагаюцца за тое, каб зрабіць калгасы Беларусі сапраўды бальшэвіцкімі, сталінскімі калгасамі.

Шырокае ўкараненне тэхнікі ў сельскую гаспадарку выклікала неабходнасць стварэння новых кадраў, якія-б аўладалі тэхнікай, бо «кадры, аўладаўшыя тэхнікай, у перыяд рэканструкцыі рашаюць усё» (Сталін).

І мы бачым, як наш беларускі селянін і сялянка, якія не так даўно працавалі яшчэ сахой і смыкам, якія ніколі не ездзілі па чыгунцы, баяліся аўтамашыны, цяпер смела селі на жалезнага каня—на трактар і пачынаюць авалодваць новай тэхнікай і пры дапамозе гэтага жалезнага каня будуюць новае радаснае, шчаслівае жыццё (а п л а д ы с м е н т ы).

З ліку калгаснікаў і калгасніц падрыхтавана: трактарных механікаў—411, брыгадзіраў—848, камбайнераў—215, трактарыстаў—13.957, шофераў—1.230, машыністаў малатарняў—2.761, ільноцерабільшчыкаў—616, машыністаў ільняных машын—1.633, загадчыкаў жывёлагадоўчых ферм—7.311, брыгадзіраў паляводаў—12.846, рахункаводаў—10.857.

Адны гэтыя лічбы паказваюць, што няма ўжо старой сельскай гаспадаркі, а ёсць сапраўды індустрыяльная фабрыка хлеба, масла, сала і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў (а п л а д ы с м е н т ы).

Вось чаму беларускі народ у сваім пісьме-паэме да таварыша **Сталіна** з радасцю спявае:

А ў нас стаў квітнеючым край беларускі,
Змяніліся людзі, аблічча зямлі,—
Замест палосак, убогіх і вузкіх,
Калгасныя нівы, як мора ляглі.
(А п л а д ы с м е н т ы).

Царскае самаўладдзе свядома трымала працоўныя масы Совецкай Беларусі непісьменнымі, а калі і вучыла іх грамаце, то толькі для таго, каб праз школы ажыццяўляць свае вялікадзяржаўныя, каланізатарскія мэты. І мы бачым, што ў 1914-15 годзе на тэрыторыі Беларусі налічвалася толькі 4.257 школ з 6.998 настаўнікамі. Большасць з тэтых школ былі царкоўна-прыхадскімі, у якіх настаўнікамі з'яўляліся папы, папоўскія дочкі, сынкі і іх прыхлябальнікі.

Таму пісьменнасць у дарэволюцыйнай Беларусі была надзвычайна нізкая. На 1.000 чалавек насельніцтва ў 1907 г. пісьменных было: па Віцебскай губерні 246 чалавек, па Менскай—178 і па Магілеўскай—169. І буржуазія, якая свядома трымала працоўныя народы ў стане некультурнасці, беднаты, гнёту, мела смеласць, мела цынізм заяўляць аб тым, што гэтыя працоўныя народы цёмныя, некультурныя, што яны апрача гарэлкі, апрача чаркі нічога не жадаюць і ні аб чым не мараць.

І толькі пасля Кастрычніцкай рэволюцыі працоўныя масы

Совецкай Беларусі горада і вёскі атрымалі сапраўдную магчымасць вучыцца.

У 1935—1936 навучальным годзе ў БССР налічваецца 6.913 школ, у якіх працуюць 26.896 настаўнікаў і вучыцца 946,5 тыс. нашых дзяцей (апладысменты). Агульная бясплатная асвета стала здабыткам працоўных мас Совецкай Беларусі. Ажыццяўляецца на справе пастанова аб увядзенні ўсеагульнага навучання на базе няпоўнай сярэдняй школы.

У 1936 годзе існуе 1.664 няпоўных сярэдніх школ, у якіх вучыцца 460.588 чалавек. З кожным годам расце колькасць поўных сярэдніх школ. Тое, што было зусім недаступным для працоўных мас у дарэволюцыйнай Беларусі, сёння ў Совецкай Беларусі з'яўляецца іх законным правам.

У 1935—1936 годзе працуе 186 поўных сярэдніх школ, у якіх вучыцца 122.943 вучня—дзяцей рабочых, калгаснікаў, служачых, якія атрымліваюць бясплатную сярэднюю адукацыю ў нашых поўных совецкіх сярэдніх школах.

Таварышы, гонарам не толькі Совецкай Беларусі, але і ўсяго Совецкага Саюза з'яўляецца арганізацыя ў БССР вышэйшых навучальных установ. У дарэволюцыйныя часы, як вядома, на тэрыторыі БССР не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, а калі-б яны і былі, то дарога ў іх для нас была закрыта, бо нас туды не пускалі па саслоўнаму паходжанню, не пускалі і таму, што за гэтую асвету трэба было плаціць грошы, якіх у нас з вамі не было. У 1936 г. у БССР існуе 22 вышэйшых навучальных установы, у якіх вучыцца 14.977 студэнтаў—дзяцей рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, саміх рабочых і калгаснікаў. З кожным годам расце колькасць рабоча-сялянскай моладзі, скончыўшай вышэйшыя навучальныя ўстановы на тэрыторыі Совецкай Беларусі і ўсяго Совецкага Саюза. Беларускі медыцынскі інстытут выпусціў з 1925 па 1936 год 1.975 дактароў: Беларускі дзяржаўны універсітэт з 1925 па 1936 год выпусціў 2.257 чалавек, атрымаўшых вышэйшую асвету. Гэта тыя людзі, якія ў дарэволюцыйныя часы не мелі-б ніякай магчымасці вучыцца ў вышэйшых навучальных установах.

У часы кастрычніцкіх свят мы пабывалі ў інтэрнатах студэнтаў горада Менска і праводзілі з імі гутаркі. Будучы ў інтэрнаце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, я запытаў у нашых маладых студэнтаў і студэнтак аб тым, ці меў бы хто з іх магчымасць вучыцца ў вышэйшых навучальных установах у дарэволюцыйныя часы. І ўсе, як адзін, адказалі, што ніхто. Гэта гаворыць аб тым, што толькі Кастрычніцкая рэволюцыя, толькі совецкая ўлада, толькі ленінска-сталінская нацыянальная палітыка, дапамога Совецкага Саюза далі нам магчымасць вучыць дзяцей у вышэйшых навучальных установах. І сёння 14.000 нашых дзяцей вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. Але, таварышы, вянцом нашай работы ў галіне развіцця культуры ў БССР з'яўляецца Беларуская Акадэмія Навук, навукова-даследчыя інстытуты, у якіх навуковыя работнікі працуюць на карысць социялістычнага будаўніцтва.

Кіно, радыё, тэатры, клубы, дамы соцкультуры сталі жыццёвай неабходнасцю для задавальнення культурных патрэб рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

Мы стварылі не толькі культурныя ўстановы, а выдатныя культурныя ўстановы, якія могуць служыць гонарам не толькі для Савецкай Беларусі, а і для іншых саюзных рэспублік, для ўсяго Савецкага Саюза. Дом піянераў ёсць гордасць не толькі Савецкай Беларусі, але ўсяго Савецкага Саюза (апладысменты).

З кожным годам павялічваецца кніжная прадукцыя Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. У 1935 г. выдана 854 назвы, з агульнай колькасцю ў 8.867 тысяч экземпляраў. У цэнтры і на месцах у 1935 г. выдавалася 217 газет з агульнай колькасцю ў 134 млн. экземпляраў. Гэта значыць, што калі падзяліць 134 млн. экземпляраў на 5 млн. насельніцтва, то на кожнага выйдзе каля 25 экземпляраў, чаго няма ні ў адной краіне свету.

Савецкая Беларусь з краіны заняпалай, непісьменнай, некультурнай ператварылася ў краіну суцэльнай пісьменнасці, бліскучага росквіту культуры соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме (апладысменты).

Нядзіва, таварышы, што:

Заместа праклёнаў і песень тужлівых,
Што поўнілі сэрца, як горкі палын,
Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых,
Як гімн перамогі савецкіх жанчын.

Знікае канчатковае гаротнае і цяжкае жыццё працоўных Савецкай Беларусі. Дзякуючы велізарным перамогам у справе соцыялістычнага будаўніцтва працоўным БССР жыць стала лепш, жыць стала весялей (гучныя апладысменты).

З кожным годам павялічваюцца заработкі і даходы рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

Па даных Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку сярэдні даход рабочага за паўгоддзе 1936 г. падняўся ў параўнанні з 1934 г. (калі 1934 год лічыць за 100) да 147.

У сувязі з павелічэннем даходу мяняецца і ўвесь дабрабыт самога рабочага, мяняюцца выдаткі на сваё жыццё, быт, свае запатрабаванні. Калі параўнаем 1934 г. і 1936 г. (1934 год прымаецца за 100), то выдаткі рабочага на харчаванне павялічваюцца да 135. Рабочы цяпер стаў харчавацца лепш. Больш грошай выдаткоўваецца рабочым на мэблю, замест 100—447. Рабочыя пачалі лепш адзявацца, яны на адзенне выдаткоўваюць замест 100—243, г. зн. павелічэнне ў 2,5 раза. Калі рабочы ходзіць на сход, канферэнцыю, тэатр, кіно, то ён стараецца прыгажэй адзецца, мець добры касцюм, галстук, павялічваюцца выдаткі рабочага на задавальненне культурных запатрабаванняў—на газеты, кнігі, часопісы, кіно, тэатры і інш., павелічэнне—замест 100—142.

Вельмі цікавыя змены адбываюцца ў складзе прадуктаў, якія набывае рабочы для свайго харчавання. Калі мы прымем 1935 г. за 100, то ў 1936 г. атрымаем наступныя лічбы: на муку жытнюю рабочы выдаткоўвае 61,2, гэта значыць, што жытняй мукі рабочы купляе менш, затое пшанічнай мукі ён купляе замест 100—338,6, у тры разы больш (апладысменты), хлеба чорнага—99,5, зноў зніжэнне, затое хлеба пшанічнага—108,6, круп—139,9, мяса—173,7, масла—184,5, цукру—185,4 і т. д., у мяне няма даных колькі рабочы купляе віна, але я магу супакоіць, што тут таксама ёсць некаторае павелічэнне (смех, апладысменты).

Вось, таварышы, даныя па швейнай фабрыцы «Акцябр», з якой я заўсёды падтрымліваю прыязныя, сяброўскія адносіны. Мне далі даведку, як стаханаўцы швейнай фабрыкі «Акцябр» рыхтаваліся да свята 1 Мая.

Работніца-стаханаўка першага цэха т. Бурская купіла сабе на свята пару малочных туфляў, крэпдэшынавае плацце і флакон духоў.

Работніца-стаханаўка першага цэха т. Рыўкіна купіла сабе на свята шоўкавае плацце, дзецям бацінкі і касцюмчыкі, купіла дзіван.

Работніца-стаханаўка першага цэха т. Кірайчык, комсорг, купіла сабе летняе паліто, шоўкавае плацце, чырвоныя туфлі, фетравую шапачку, флакон адэкалону.

Рабочы-стаханавец т. Мікульянец купіў дзіван, выклеіў кватэру, купіў жонцы шоўкавае плацце.

Мне здаецца, што такіх прыкладаў з жыцця нашых новых соцыялістычных прадпрыемстваў можна прывесці дзесяткі і сотні тысяч (апладысменты).

Таварышы, яшчэ ў большай меры гэтыя змены адбываюцца ў гаспадарцы нашых калгаснікаў. Параўнаем 1934 і 1936 гады (1934 год прымем за 100). Калгаснік на адзенне і абутак у сярэднім выдаткоўвае не 100, а 165. Вы ўбачыце цяпер у нашых калгасніц новае прыгожае адзенне—у іх таксама, як і рабочых горада, ёсць джэмпры, шоўкавыя плацці, чулкі і іншыя добрыя рэчы. Калгаснікі цяпер выдаткоўваюць на мыла 167, на мэблю—300, на промтавары—156.

Харчаванне калгаснікаў значна палепшылася. На жытнюю муку выдаткоўваецца—72,2, на пшаніцу—206,7, на гародніну—105,5, на цукер і кандзіцерскія вырабы—333,3, на мяса і сала—139,5, на рыбныя прадукты—175.

Для ілюстрацыі таго, як гэта адбіваецца на паасобных сем'ях, я прывяду вам для прыкладу сям'ю калгасніка прыгранічнага калгаса «Памяць Леніна», Вяліка-Раеўскага сельсовета, Копыльскага раёна, тав. Рычыка Івана Нікітавіча. Да рэволюцыі яго гаспадарка з'яўлялася бядняцкай, мела ў сваім карыстанні 2,95 га пахаці, 0,35 сенажаці, аднаго каня, адну карову і свінню. Сям'я складалася з 8 душ. Зразумела, што такая гаспадарка ва ўмовах

капіталістычнага ладу з'яўлялася пастаўшчыком батракоў і дзяшовай рабочай сілы. Гэтая сям'я ў сучасны момант знаходзіцца ў калгасе. За 1936 г. яна выпрацавала 894 працадні і атрымлівае зернавых 1 тону 800 кг., бульбы—5 тон 10 кг. і грошай 400 рублёў. Жыве ў новым доме, у якім пафарбаваны вокны і падлога, мае карову, цёлку, 6 штук свіней, 4 авечкі. Сын Іван працуе інжынерам у Маскве, канструктарам па самалётабудаўніцтву; другі сын Нікалай інжынер лясной гаспадаркі, трэці сын—працуе на Метрабудзе і вучыцца ў будаўнічым Інстытуце; сын Валодзя працуе загадчыкам дома соцкультуры. Адным словам, сям'я, як бачыце, шчаслівая, радасная, сапраўды совецкая, сям'я (а п л а д ы с м е н т ы). І такіх прыкладаў, таварышы, мы можам прывесці тысячы.

Значнае палепшанне матэрыяльнага становішча працоўных горада і вёскі, а таксама ажыццяўляемыя совецкім урадам мерапрыемствы па ліквідацыі соцыяльных хвароб—гэтай праклятай спадчыны мінулага, аказалі рашучы ўплыў на палепшанне фізічнай сілы і здароўя працоўных.

У Совецкай Беларусі паявіліся зусім новыя формы медыцынскага абслугоўвання працоўных; арганізаваны санаторныя койкі для дзяцей і дарослых. У 1936 годзе існуе 1100 санаторных коек. Бурна расце колькасць ясляў, якіх не ведала дарэволюцыйная Беларусь. У гэтым-жа годзе працавала 135 тыс. мейсц у пастаянных і сезонных яслях на прадпрыемствах і ў калгасах. Жанчыны рожаніцы знаходзяцца пад пастаянным медыцынскім наглядам і карыстаюцца дапамогай з боку медыцынскага персанала. У гэтым-жа годзе непасрэднай медыцынскай дапамогай было ахоплена 60 проц. усіх рожаніц супроць 3,5 проц. у 1914 г. На ахову здароўя у 1936 годзе выдаткавана 160 млн. руб.

Дзякуючы гэтаму ў БССР мы маем значнае зніжэнне агульнай смяротнасці. У 1910 годзе на 1 тыс. насельніцтва памірала 21,1, у 1928 г.—14,2, у 1935 г.—толькі 13.

У сувязі з гэтым наглядаецца павелічэнне натуральнага росту насельніцтва БССР: замест 19 душ на 1 тыс. насельніцтва ў 1910 г.—22,4 у 1936 г. Каб лепш уявіць значэнне гэтых лічбаў, трэба параўнаць іх са станам натуральнага росту насельніцтва ў капіталістычных краінах, дзе карціна зусім іншая. У фашысцкай Германіі, дзе Гітлер дэкларуе, што ён прынёс германскаму народу новае «шчаслівае» жыццё, у 1910 годзе натуральны рост насельніцтва складаў 14,1, у 1930 г.—6,5, у 1933 г.—3,5. У Англіі адпаведна—11,6, у 1930 г. 4,9, у 1933 г.—толькі 2,4. Гэтыя даныя паказваюць значнае зніжэнне натуральнага росту насельніцтва, што з'яўляецца рэзультатам цяжкага матэрыяльнага становішча, галечы, беднасці, шматмільённага беспрацоўя, што пануе ў гэтых капіталістычных краінах.

У здаровых умовах Совецкага Саюза і Совецкай Беларусі расце здаровае, бадзёрае, моцнае насельніцтва, у якога адбы-

ваецца гарманічнае спалучэнне развіцця фізічных і духоўных сіл і здольнасцей.

> «Няма больш забітай нядоляй рабыні,
> Заместа прыбітых балесных жанок,
> Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне,
> Іх ведае поле, рабочы станок».

У новых умовах перамогшага соцыялізма, заможнага і радаснага жыцця ідзе бурнымі крокамі перараджэнне людзей, якіяператварыліся ў актыўных і свядомых будаўнікоў соцыялізма. Стаханаўскі рух, аб якім я ўжо гаварыў у раздзеле прамысловасці, мае вялікае пашырэнне і ў сельскай гаспадарцы. Мы можам назваць дзесяткі знатных людзей—стаханаўцаў, стаханавак соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, якія сумленна і аддана працуюць і змагаюцца за соцыялістычную сельскую гаспадарку. Імёны гэтых людзей сталі вядомымі, любімымі і паважанымі сярод працоўных усёй Совецкай Беларусі.

Рыхтуючыся да Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, мы думалі, чым адзначыць гэты з'езд, якую выстаўку арганізаваць і мы палічылі, што самай лепшай выстаўкай будзе галерэя нашых знатных людзей—ордэнаносцаў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, бо самае важнае, самае каштоўнае, што мы, таварышы, завяявалі за гэты час, змагаючыся за соцыялізм,— гэта нашы новыя людзі, гэта наша новае сталінскае пакаленне, якое вырашае грандыёзныя задачы, перамагае ўсе труднасці і стварае сваімі рукамі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі новае радаснае соцыялістычнае жыццё (а п л а д ы с м е н т ы).

Новае радаснае, бадзёрае жыццё Совецкай Беларусі з'яўляецца асновай далейшага ўздыму творчай ініцыятывы і энтузіязму працоўных Совецкай Беларусі.

Народ радуецца новаму шчасліваму заможнаму жыццю, якога ён дабіўся пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна (а п л а д ы с м е н т ы).

Усё гэта адлюстроўваецца ў надзвычайна пышным росквіце народнай творчасці і мастацтва ў Совецкай Беларусі. Наша беларуская паэзія па праву заваявала сабе прызнанне не толькі ў Совецкай Беларусі, але і ў Совецкім Саюзе. Творы народных паэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, пісьменніка Александровіча, прысвечаныя перамогам соцыялістычнага будаўніцтва, адлюстроўваючыя бязмежную адданасць працоўных Совецкай Беларусі справе Леніна—Сталіна сёння чытаюцца і вывучаюцца не толькі на прасторах Совецкай Беларусі, але і Совецкага Саюза.

Беларускія кампазітары, мастакі, скульптары, артысты паспяхова працуюць над тым, каб даць працоўным Совецкай Беларусі творы, карціны, вобразы, вартыя нашай вялікай сталінскай эпохі.

Па ўсёй Совецкай Беларусі мы наглядаем у сучасны момант надзвычайны ўздым народнай мастацкай творчасці. Народ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі стварае новае шчаслівае жыццё, будуе соцыялізм і выражае свае настроі, свае пажаданні, свае пачуцці ў мастацкай самадзейнасці, у новых песнях, адлю-

строўваючых увесь гэты глыбокі змест, якім напоўнена жыццё працоўных.

Калі, з аднаго боку, мы бачым высокае развіццё мастацкіх твораў, мастацкага слова нашых пісьменнікаў, то з другога боку, самі калгаснікі і калгасніцы, самі рабочыя і работніцы таксама твораць новыя частушкі, у якіх яны адлюстроўваюць кожную падзею свайго жыцця, свой удзел у соцыялістычным будаўніцтве.

Наша краіна абмяркоўвае сталінскую Канстытуцыю і калгасная вёска адзначае гэта ў сваіх мастацкіх частушках:

«Вее ветрык веснавы
З пяскамі сыпучымі,
Мы на сход усе прыйшлі
Слухаць Канстытуцыю».

Я па кладачцы ішла,
Кладачка ківаецца,
Канстытуцыя ўсім
Вельмі спадабаецца».

(Апладысменты).

**Жуковіч** (старшыня). Таварышы, для заканчэння даклада Александру Грыгоравічу патрэбна яшчэ гадзіна часу, можа зробім цяпер перапынак?

(Галасы з месц:—«Зробім перапынак»).

**Абвяшчаецца перапынак на 10 мінут.**

**Жуковіч** (старшыня). Пасяджэнне з'езда прадаўжаем. Слова для прадаўжэння даклада мае тав. **Чэрвякоў** (апладысменты).

## V. СТРАШЭННАЕ МІНУЛАЕ БЕЛАРУСІ І РАДАСНАЕ СУЧАСНАЕ.

**Чэрвякоў.** Таварышы, у гэтыя гістарычныя дні працоўныя Совецкай Беларусі зноў і зноў успамінаюць сваё страшнае мінулае для таго, каб расказаць аб ім падрастаючаму пакаленню і выхаваць нашу змену ў духу ненавісці да цемры мінулага, у духу найвялікшай адданасці справе соцыялістычнага будаўніцтва, справе Леніна—Сталіна.

На ўсіх шматлікіх сходах, пленумах, з'ездах працоўных горада і вёскі, якія адбыліся напярэдадні Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, нашы слаўныя стаханаўцы і стаханаўкі калгасаў і прадпрыемстваў расказвалі многа жудасных малюнкаў аб нядаўным мінулым. З асаблівай сілай урэзаўся мне ў памяць расказ аднаго калгасніка Дрысенскага раёна на з'ездзе аб тым, як ён у часы паншчыны быў завуздан панам для таго, каб, сеючы гарох, не мог есці гароху.

Гэты вобраз зануздаяага селяніна, закаванага рабочага ёсць вобраз старой Беларусі, які з'яўляецца ганебным помнікам царскаму самадзяржаўю. Як выразна адрозніваецца наша сучаснае

жыццё ад гэтага страшэннага мінулага. Мы ўспамінаем словы паэта: «свежо предание, а верится с трудом».

У мінулым сама назва Беларусі была выкрэслена рукой расійскага самадзержца. Цяпер Беларусь разам з усім Совецкім Саюзам творыць бліскучую гісторыю пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. У мінулым беларускі народ не меў сваёй дзяржаўнасці, з'яўляўся аб'ектам каланіяльнага ўздзейнічання і барацьбы расійскіх і польскіх магнатаў. Цяпер Беларусь існуе як свабодная совецкая соцыялістычная дзяржава, як роўнапраўная частка вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, займаючы пачэснае месца сярод перадавых рэспублік і абласцей.

У мінулым забарона карыстацца роднай мовай, бескультур'е, панаванне забабонаў, адносіны да беларускага насельніцтва як да лясных і балотных паўдзікіх людзей. Цяпер бліскучы росквіт соцыялістычнай па зместу, нацыянальнай па форме, самай перадавой, самай чалавечнай, самай гуманнай культуры.

У мінулым гэта калонія, у якой панавала эксплаатацыя, дзе насельніцтва было асуджана на выміранне, на знішчэнне. Цяпер пастаянная ўвага, своечасовае брацкае магутнае падтрыманне, а ў сувязі з гэтым адраджэнне гаспадаркі, культуры, уздым матэрыяльнага добрабыту мас, радаснае, шчаслівае заможнае жыццё.

У мінулым нацыянальны гнёт, нацкоўванне адной нацыянальнасці на другую, распальванне міжнацыянальнай варожасці. Цяпер стварэнне адзінага інтэрнацыянальнага фронта ўсіх працоўных у барацьбе за соцыялізм, знішчэнне нацыянальнай варожасці, няроўнасці, фактычная дапамога працоўным усіх нацыянальнасцей у іх гаспадарчым і культурным развіцці, у справе кіравання дзяржавай.

Як вядома, Совецкая Беларусь у мінулым з'яўлялася тэрыторыяй так званай «мяжы аседласці» для яўрэйскага насельніцтва— гэтага бесчалавечнага здзеку над шматлікім, таленавітым яўрэйскім народам. Калі я быў у мястэчку Ляды, Дубровенскага раёна, то мне таварышы расказалі там такую гісторыю: мястэчка Ляды, як вядома, ляжыць на мяжы з былой Смаленскай губерніяй, куды яўрэй, не меўшы права жыхарства, не смеў паяўляцца. Калі выпадкова яўрэю прыходзілася праходзіць праз мост у Смаленскую губернію, то яго затрымлівалі, штрафавалі або каралі яшчэ больш моцна і варочалі назад. Расказваюць, што пасля рэволюцыі многія старыя яўрэі знаходзілі для сябе асаблівую асалоду ў тым, што ў вольны час па некалькі разоў пераходзілі праз гэты мост, як-бы правяраючы ці скінута тое абмежаванне, якое цяжкім гнётам ляжала на іх бацьках, на іх дзедах і прадзедах. І нам зусім зразумелы паводзіны гэтых старых нявольнікаў царскага самадзяржаўя. Той мост, які ў старыя часы з'яўляўся пракляццем, забароненай мяжой, сімвалам абмежавання і нацыянальнага гнёту, гэты мост, дзякуючы Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі, дзякуючы ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыцы стаў залатым мастом вызвалення, роўнасці і брац-

тва, мастом, праз які адчынена дарога і яўрэям, і беларусам, і палякам, для кожнага працоўнага на соцыялістычным шляху да новай светлай будучыні, дарога ў соцыялістычную Маскву, у Крэмль, да самога таварыша Сталіна (апладысменты). А пабываць у Маскве, пабываць у Крэмлі, пабачыць таварыша Сталіна—гэта ёсць заветная думка кожнага працоўнага Совецкага Саюза (апладысменты).

На працягу ўсёй рэволюцыйнай барацьбы чырвонай ніткай праходзіць выключная адданасць, любоў і ўвага, якія працоўныя Совецкай Беларусі праяўляюць да таварышоў Леніна і Сталіна (апладысменты).

## VI. ВЫДАТНАЯ РОЛЯ ТАВАРЫША СТАЛІНА Ў БУДАЎНІЦТВЕ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ.

У 1918 г. Сталін, як народны камісар па справах нацыянальнасцей, непасрэдна і канкрэтна займаецца беларускімі справамі, дапамагае ў барацьбе супроць нямецкай акупацыі, у вызваленні тэрыторыі Беларусі, у арганізацыі совецкай ўлады і ўтварэнні КП(б)Б.

Надыйшоў 1919 год. Агалашаецца Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка. Уся работа па падрыхтоўцы гэтага важнага гістарычнага акта і яго ажыццяўленню праходзіць пад непасрэдным кіраўніцтвам і пры самым блізкім ўдзеле таварышоў Леніна і Сталіна. Ёсць гістарычныя матэрыялы, якія сведчаць аб тым, што таварыш Сталін у 1920 годзе быў у Менску і ў Смаленску і займаўся непасрэднай работай па арганізацыі барацьбы супроць белапольскай акупацыі (апладысменты).

У 1921 г. таварыш Сталін на X З'ездзе партыі ізноў выступае па беларускаму пытанню. Адказваючы на атрыманыя запіскі, таварыш Сталін гаварыў:

«Тут я маю запіску аб тым, што мы, комуністы, быццам-бы насаджаем беларускую нацыянальнасць штучна. Гэта няверна, таму што існуе беларуская нацыянальнасць, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, з прычыны чаго падняць культуру беларускага народу можна толькі на роднай яго мове».

Калі ў 1922 г. было паднята пытанне аб утварэнні Саюза ССР, то па ініцыятыве і прапанове таварышоў Сталіна і Леніна ў ліку першых рэспублік, запрошаных для абгаварэння і падрыхтоўкі гэтага пытання, была і Совецкая Беларусь. Як вядома, Совецкая Беларусь была ў ліку тых чатырох рэспублік, якія ўтварылі тады Совецкі Саюз, увайшоўшы ў яго ў якасці саюзных рэспублік.

У 1924—26 гадах адбываецца далучэнне да Совецкай Беларусі ўсіх совецкіх тэрыторый з большасцю беларускага насельніцтва. Гэтая важная гістарычная справа таксама

адбываецца пры непасрэдным кіраўніцтве і ўдзеле таварыша Сталіна.

Таварышы, каб зразумець вялікае палітычнае значэнне гэтых актаў нам трэба ўспомніць тое, што капіталістычны свет тэрытарыяльныя пытанні вырашае толькі вайной. Так вырашаецца, напрыклад, спрэчнае пытанне аб Эльзас-Латарынгіі паміж Францыяй і Германіяй, так вырашаюцца спрэчныя пытанні на Балканах, так рыхтуюцца вырашыць пытанне Германія і Польшча аб Данцыгу. А ў Краіне советаў на аснове мудрай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі гэтыя пытанні вырашаюцца шляхам добравольнага пагаднення паміж брацкімі рэспублікамі.

Усё далейшае развіццё Совецкай Беларусі праходзіць пры самым блізкім удзеле таварыша Сталіна. Барацьба за соцыялістычную індустрыялізацыю, за рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, за развіццё соцыялістычнай культуры, за новыя кадры, за перавыхаванне працоўных горада і вёскі ў актыўных і свядомых будаўнікоў соцыялізма—усё гэта звязана з іменем таварыша Сталіна. Тым, што Совецкая Беларусь з адсталай ператварылася ў перадавую рэспубліку Совецкага Саюза, мы абавязаны ў першую чаргу вялікай і любоўнай дапамозе нам з боку лепшага друга беларускага народу таварыша **Сталіна** (апладысменты).

Клопаты таварыша Сталіна аб беларускім народзе праяўляюцца і ў вялікіх і ў малых справах.

Вось, таварышы, невялікі прыклад. У чэрвені месяцы бягучага года ў Маскве адбыўся фізкультурны парад і па патрабаванню таварыша Сталіна ў праграму гэтага парада было ўключана выступленне беларускіх фізкультурнікаў. Каб зразумець значэнне гэтага, на першы погляд невялікага факту, трэба мець на ўвазе, што на фізкультурным парадзе ў Маскве прысутнічала ўсё кіраўніцтва нашай партыі і нашай совецкай дзяржавы, што на ім прымалі ўдзел лепшыя людзі нашай соцыялістычнай радзімы.

Нашы фізкультурнікі ў Маскве сваім выглядам, сваёй вывучкай, арганізаванасцю, прыгожасцю прадстаўлялі ўвесь совецкі беларускі народ, яго фізічны і культурны рост, яго поспехі, яго новае радаснае жыццё (апладысменты). І тут, таварышы, як мы бачым, выявіліся з ўсёй сілай мудрыя і любоўныя адносіны да беларускага народу таварыша Сталіна, які лічыць неабходным паказаць нас перад усім Совецкім Саюзам, перад усім светам ва ўсёй нашай сіле і прыгожасці (апладысменты).

У слаўную гадавіну вызвалення БССР ад белапольскай акупацыі працоўныя Совецкай Беларусі звярнуліся з пісьмом да таварыша Сталіна. У гэтым яскравым дакуменце, у якім глыбокая народная творчасць прыгожа спалучылася з высокай мастацкай формай, працоўныя масы Совецкай Беларусі выразілі ўсю сваю нянавісць да праклятага мінулага, усё сваё за-

мілаванне і адданасць да новай сацыялістычнай радзімы, да савецкай улады, сваю бязмежную адданасць і любоў да правадыра працоўных усяго свету таварыша Сталіна.

«Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёй,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка у нас—пра цябе».

(Апладысменты).

Таварышы, поспехі Савецкага Саюза і Савецкай Беларусі, як яго неадлучнай часткі, відаць асабліва яскрава на агульным фоне супярэчнасцей, якія на працягу ўсяго часу раз'ядаюць капіталістычны свет.

Савецкі Саюз і Савецкая Беларусь з кожным годам павялічваюць сваю вытворчасць і даўно ўжо перавысілі так званыя даваенныя нормы. Па аб'ёму валавой прадукцыі прамысловасці СССР вышаў на першае месца ў Еўропе. Валавая прадукцыя прамысловасці Савецкага Саюза паднялася ў параўнанні з даваенным часам у 8 разоў, а валавая прадукцыя Савецкай Беларусі, як я ўжо гаварыў, паднялася за гэты час у 18 разоў.

Савецкі Саюз, і ў тым ліку Савецкая Беларусь, даўно канчаткова ліквідавалі беспрацоўе і па праекту новай Канстытуцыі гарантуецца права кожнага грамадзяніна на працу, а ў той-жа час у капіталістычных краінах працоўныя масы страшэнна церпяць ад беспрацоўя.

Эканамічныя цяжкасці і супярэчнасці, якія перажываюць капіталістычныя краіны кладуцца ўсёй сваёй сілай у першую чаргу на працоўныя масы горада і вёскі і з прычыны гэтага мы бачым надзвычайнае пагоршанне становішча гэтых працоўных мас.

Таварышы, усе вы ўжо чулі аб кніжцы «Польскія сяляне аб сваім жыцці», якая выдана Міжнародным аграрным Інстытутам на аснове дакументаў, сабраных Інстытутам сацыяльнай эканомікі ў Варшаве. У гэтай кніжцы змешчаны пісьмы саміх сялян, у якіх яны расказваюць аб сваім вельмі цяжкім жыцці. Іх простыя расказы раскрываюць нам жудасную карціну гаспадарчага і культурнага занядаду і беспрасветнага, бесперспектыўнага жыцця вялікай масы польскага сялянства.

Яшчэ горшае становішча працоўных у Заходняй Беларусі, якую ў Польшчы называюць Усходнімі крэсамі.

Для характарыстыкі становішча ў Заходняй Беларусі я прывяду некалькі даных з польскіх газет.

Віленскія газеты, характарызуючы становішча сялян Палесся і раду паветаў Віленшчыны, пісалі ў Кастрычніку гэтага году аб тым, што ўжо ў сучасны момант больш 36 тыс. сялянскіх гаспадарак стаяць перад пагрозай голаду. Сялянства, па сведчанню гэтых газет, ужо цяпер у вельмі многіх мясцах патрабуе дапамогі—няма хлеба, няма бульбы, няма кармоў.

«Усе ведаюць,—піша «Кур'ер Віленскі» ад 19 жніўня 1936 года—што ў нас няма заможнага жыцця».

А затое ў нас, у СССР ёсць заможнае жыццё (а п л а д ы с м е н т ы).

Орган віленскіх памешчыкаў «Слова» ад 12 жніўня 1936 г. у сувязі з дыскусіяй паміж двума віленскімі газетамі «Кур'ер Віленскі» і «Беларуская Крыніца» па поваду таго, што адна з іх прыраўняла становішча мясцовых сялян да становішча афрыканскіх неграў, піша:

«Безумоўна, што такое параўнанне з неграмі з'яўляецца прыніжэннем годнасці чалавека, які знаходзіцца ў Еўропе. Аднак, нельга адмаўляць правільнасці гэтага параўнання, у прыватнасці, калі гэта адносіцца да нашай тэрыторыі—Палесся. Божа мой! У такіх умовах жывуць сотні тысяч людзей. Іменна, як негры... Сапраўды, становішча нашых сялян безнадзейнае».

«Кур'ер Паранны» 22 жніўня 1936 года ў артыкуле «Рэзервуар паншчыны на Ўсходніх крэсах» піша:

«На Ўсходніх крэсах прадаўжаюць існаваць адносіны феадальнай залежнасці сялян ад памешчыкаў. Не гледзячы на тое, што часы паншчыны даўным даўно мінулі, сяляне тут, як і ў феадальныя часы, цалуюць пану руку і працуюць у яго маёнтках».

Па прыкладу рускага цара польская буржуазія выкрэсліла самую назву Заходняя Беларусь».

Вядомы тэарэтык польскага фашызма В. Студніцкі піша: «Ні аб якім беларускім народзе не можа быць і гутаркі, бо народ гэта паняцце палітычнае, а беларусы ніякіх сапраўдных традыцый не маюць. Аб беларускай культуры нельга гаварыць, бо няма ў іх культурнага адзінства. Гэта сферы польскага і рускага ўплываў».

З гэтай устаноўкі вынікае і тая паланізатарская палітыка, якая настойліва праводзіцца на «Ўсходніх крэсах».

Жахлівае становішча працоўных сялян выклікае рост нездавальнення існуючым парадкам.

Дарэмна пан Студніцкі піша ў сваім артыкуле, што ў беларускага працоўнага народу няма ніякіх традыцый. Ён забыў або стараецца забыць аб тым, што ў працоўных мас Беларусі ёсць здаровыя традыцыі—гэта біць паноў, знішчаць паноў і эксплаататараў, змагацца за пралетарскую рэвалюцыю. (Б у р н ы я, д о ў г а  н е з м а ў к а ю ч ы я  а п л а д ы с м е н т ы).

(Голас з месца: «Няхай жыве Кастрычніцкая рэвалюцыя ва ўсім свеце! Ура!»).

Яна, таварышы, гэтая Кастрычніцкая рэвалюцыя і нарастае ва ўсім свеце (а п л а д ы с м е н т ы). І гэта відаць з наступнага: калі, з аднаго боку, паны Польшчы гавораць, што ў працоўных мас Заходняй Беларусі няма ніякіх палітычных традыцый, то, з другога боку, паны-каланізатары павінны прызнаць, што нешта новае адчуваецца ў вёсках, у гарадах Польшчы і Заходняй Беларусі.

У адным пісьме памянёнай вышэй кнігі «Польскія сяляне аб сваім жыцці» гаворыцца:

«Людзі скрыгочуць зубамі і нянавісць да ўлады і паноў расце»...

«Усё гэта параджае нездавальненне і бунт і народ чакае, каб прыйшоў сапраўдны божы суд...»

«Далей паўстае пытанне, ці не патрэбна тут рука кары і помсты? І гэтая рука з'явіцца, яе пародзяць беднасць і голад».

У сувязі з гэтымі настроямі, віленская фашысцкая газета «Кур'ер Віленскі» ад 9 жніўня 1936 года з сумам канстатуе, што ў Слонімскім павеце сяляне змянілі сваю форму прывітання. Яны вітаюцца так: адзін гаворыць—«здароў», а другі яму адказвае—«на акупантаў гатоў»! (а п л а д ы с м е н т ы).

Гэты пратэст і гэтая барацьба выліваюцца ў форму адзінага фронта барацьбы супроць фашызма, супроць падрыхтоўкі новай імперыялістычнай вайны. Гэтыя настроі з'яўляюцца характэрнымі для працоўных мас усіх капіталістычных краін.

Праект сталінскай Канстытуцыі, дзе запісаны велізарныя перамогі Совецкага Саюза з'яўляецца той праграмай, тым сцягам, пад якім паднімаецца рэволюцыйная актыўнасць прыгнечаных мас, пад якім адбываецца арганізацыя гэтых мас на апошні і рашучы бой супроць раз'юшанага фашызма, супроць панавання капіталізма (а п л а д ы с м е н т ы).

## VII. НАШЫ ПЕРАМОГІ—РЭЗУЛЬТАТ ЖОРСТКАЙ БАРАЦЬБЫ З КЛАСАВЫМІ ВОРАГАМІ.

Вялікія поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў Совецкім Саюзе і Совецкай Беларусі з'яўляюцца яскравым доказам для працоўных усяго свету, што адзіным шляхам для вызвалення, для знішчэння эканамічнай эксплаатацыі і палітычнага прыгнечання, для стварэння новага жыцця—ёсць шлях пролетарскай рэволюцыі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі (а п л а д ы с м е н т ы).

Мы перамаглі толькі дзякуючы таму, што наша барацьба і работа праходзілі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Мы перамаглі толькі таму, што праводзілі сваю работу на аснове барацьбы за генеральную лінію партыі, на аснове ўмацавання дыктатуры пролетарыята.

Працоўныя Совецкай Беларусі сустракаюць сталінскую Канстытуцыю вялікімі перамогамі, таму што на чале вялікай барацьбы і будаўніцтва Совецкай Беларусі стаіць верны атрад Усесаюзнай комуністычнай партыі—Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, якая з'яўляецца правадыром і арганізатарам перамог рабочых і сялян Совецкай Беларусі (а п л а д ы с м е н т ы).

Мы сёння з радасцю адзначаем, што поспехі Совецкай Беларусі, асабліва за апошнія гады, з'яўляюцца найбольш выдатнымі і што гэта супадае з тым перыядам, калі на чале Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі стаіць выпрабаваны сталінец, наш слаўны ордэнаносец Нікалай Фёдаравіч Гікало (б у р н ы я

апладысменты. Усе ўстаюць. Галасы з месц: «Няхай жыве т. Гікало! Ура!» Апладысменты. — «Арганізатару Комуністычнай партыі Беларусі таварышу Сталіну гучнае ура». Усе устаюць. Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).

Таварышы, толькі дзякуючы таму, што наша партыя выкрыла і разграміла ўсіх ворагаў працоўнага народу, што мы пад кіраўніцтвам партыі вядзем жорсткую барацьбу з усімі класавымі ворагамі, мы ідзем паспяхова ад адной перамогі да другой.

Мы перамаглі дзякуючы таму, што выкрылі, бязлітасна змагаліся і разграмілі трацкісцка-зіноўеўскую контррэволюцыйную банду—гэтых ворагаў народу, гэтых прамых агентаў фашызма, гэтых разведчыкаў, шпіёнаў, дыверсантаў, гэты галоўны атрад рэстаўратараў капіталізма ў СССР.

І гэтыя ворагі народу на працягу доўгага часу двурушнічалі, ашуквалі, раскрадалі народнае багацце, арганізоўвалі змовы, забілі лепшага, крыштальна-чыстага, любімага ўсёй краінай саветаў Сергея Міронавіча **Кірава,** працягвалі сваю крывавую руку да таварыша **Сталіна** і яго бліжэйшых саратнікаў. Гнеў, нянавісць і агіду выклікаюць самыя імёны ганебных забойцаў—агентаў фашызма.

Наша задача заключаецца ў тым, каб выкараніць дашчэнту ўсе асіныя гнёзды трацкісцка-зіноўеўскай банды, каб папярэдзіць усякую магчымасць аднаўлення якой-бы то ні было іх злачыннай контррэволюцыйнай дзейнасці.

Мы перамаглі дзякуючы таму, што разграмілі да канца правых апартуністаў. Правыя ўхілісты, з'яўляючыся агентурай кулацтва ў партыі, у свой час рабілі стаўку на кулака, змагаліся супроць індустрыялізацыі і калектывізацыі нашай краіны. І толькі дзякуючы таму, што своечасова была выкрыта контррэволюцыйная кулацкая сутнасць гэтых «тэорый», што супроць правых ухілістаў была паднята бязлітасная барацьба, што правыя ўхілісты былі разгромлены, разбіты, мы дабіліся сусветных перамог у справе соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй нашай гаспадаркі.

Мы перамаглі дзякуючы таму, што наша партыя выкрыла і разграміла беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў. Беларускія нацдэмы ставілі сваёй мэтай ліквідаваць Кастрычніцкія заваёвы для ўтварэння на Беларусі буржуазнай рэспублікі. Беларускія нацдэмы бралі стаўку на кулацкія элементы вёскі. Каб прыкрыць сваю контррэволюцыйную сутнасць беларускія нацдэмы стараліся завуаліравацца фальшывым сцягам агульна-нацыянальнай народнай справы, самабытнасцю беларускага народу. І вось гэтыя подлыя гáды, працуючы ў совецкіх установах, дэкларыруючы аб сваёй адданасці партыі і ўраду, на працягу доўгага часу вялі контррэволюцыйную работу, праводзілі шкодніцкія мерапрыемствы і ставілі палкі ў калёсы соцыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, дарэмнымі аказаліся тэтыя контррэволюцыйныя спробы. Працоўныя масы горада і вёскі Совецкай Беларусі пад

кіраўніцтвам Комуністычнай партыі выкрылі контррэвалюцыйны твар беларускіх нацдэмаў, іх шкодніцка-злачынную ролю агентаў імперыялістычнай інтэрвенцыі.

Для працоўнага Совецкай Беларусі, які лічыць сябе чэсным грамадзянінам совецкай рэспублікі, актыўным удзельнікам і барацьбітом за новае жыццё пад сцягам новай сталінскай Канстытуцыі, першым абавязкам павінна быць штодзённая пільнасць і бязлітасная барацьба супроць усіх ворагаў соцыялістычнага ладу.

Таксама бязлітасна мы павінны весці барацьбу супроць польскага, яўрэйскага і іншых нацыяналізмаў. Мы павінны памятаць указанне таварыша Сталіна аб тым, што працоўныя прыгнечаных нацыянальнасцей заваявалі сабе сапраўдную свабоду толькі таму, што гэтая барацьба ішла не пад сцягам нацыяналізма, а пад сцягам інтэрнацыяналізма.

На аснове магутнага росквіту соцыялістычнай гаспадаркі і соцыялістычнай культуры ў нашай краіне адбыліся велізарныя зрухі ў соцыяльна-класавых адносінах. Эксплаататарскія класы ў краіне советаў ліквідаваны, сціраюцца грані паміж рабочымі і сялянамі, але працэс ліквідацыі класаў яшчэ не завяршон. Мы жывем у капіталістычным акружэнні. Існуе розніца паміж асобнымі грамадзянскімі праслойкамі, класавая барацьба прадаўжаецца, яна патрабуе ад нас далейшага ўзмацнення і ўзняцця нашай рэволюцыйнай пільнасці. Нам трэба, таварышы, дабівацца таго, каб рэволюцыйная пільнасць з'яўлялася неабходнай уласцівасцю не толькі членаў партыі, але і кожнага беспартыйнага работніка соцыялістычнага грамадства. На кожным участку работы мы абавязаны памятаць аб тым, што наша сучаснае жыццё створана нашымі ўласнымі рукамі, што мы ўсе адказваем за далейшы шлях соцыялістычнага развіцця, за справу ўмацавання нашай вялікай соцыялістычнай бацькаўшчыны, якая з'яўляецца бацькаўшчынай працоўных усяго свету. І таму, малейшая слабасць і няўважлівасць, гніла-ліберальныя адносіны да дзейнасці класавага ворага з'яўляюцца зусім недапушчальнымі, бо яны дапамагаюць класаваму ворагу.

Згодна сталінскай Канстытуцыі ўстанаўляецца ўсеагульнае, роўнае, прамое і тайнае галасаванне. Гэта ёсць крок уперад па шляху стварэння бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Гэта ёсць паказчык велізарнага росту, аўтарытэту партыі, магутнасці совецкай дзяржавы, умацавання дыктатуры пролетарыята. Але гэта патрабуе ад кожнага з нас яшчэ большага завастрэння нашай класавай пільнасці. Мы павінны ўспомніць указанне Владзіміра Ільіча Леніна, што нельга змешваць пытанне аб абмежаванні буржуазіі ў выбарчых правах з пытаннем аб падаўленні буржуазіі. «... Дыктатура пролетарыята,—гаворыць Ленін,— будзе падаўляць буржуазію на кожным кроку, але можа не пазбаўляць буржуазію выбарчых правоў». Трэба памятаць, што падаўляць буржуазію мы будзем заўсёды да канчатковага зніштажэння класаў, да стварэння бяскласавага соцыялістычнага грамадства» (а п л а д ы с м е н т ы).

Такім чынам, каб хутчэй вырашыць асноўную задачу другой

пяцігодкі—задачу пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, канчатковай ліквідацыі рэшткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, мы абавязаны вышэй падняць нашу рэволюцыйную пільнасць, скарыстаць урокі мінулага для таго, каб з усёй большэвіцкай упартасцю і вастрынёй, па-сталінску наносіць сакрушальныя ўдары малейшым варожым праявам з боку класавых ворагаў, каб канчаткова і да канца знішчыць гэтых класавых ворагаў (апладысменты).

## VIII. ПРАЕКТ СТАЛІНСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ І НАШЫ ЗАДАЧЫ.

Таварышы, усе гэтыя ўмовы трэба абавязкова мець на ўвазе пры абмеркаванні сталінскай Канстытуцыі. У сучасны момант няма літаральна ніводнага кутка ў Совецкай Беларусі, ніводнага грамадзяніна, які-б не ведаў пра сталінскую Канстытуцыю. На цэлым радзе прадпрыемстваў, у калгасах, у соўгасах, на сходах працоўных праект сталінскай Канстытуцыі абмяркоўваўся па некалькі разоў і кожны раз з новай актыўнасцю і з новым уздымам.

На заключных сходах пры падвядзенні вынікаў абмеркавання сталінскай Канстытуцыі прысутнічала каля 2½ млн. дарослых грамадзян, выступіла ў спрэчках каля 70 тыс. чал., зроблена дадаткаў, прапаноў аб зменах тых ці іншых артыкулаў каля 5 тыс. Усё гэта сведчыць аб вялікай актыўнасці і росце палітычнай свядомасці працоўных мас Совецкай Беларусі.

Аднак, трэба адзначыць, што тыя змены, дадаткі, якія былі ўнесены на сходах, датычаць паасобных канкрэтных пытанняў і не закранаюць прынцыповых установак Канстытуцыі. Сталінская Канстытуцыя сустрэла агульнае адабрэнне з боку працоўных горада і вёскі Совецкай Беларусі.

Мы, дэлегаты Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, павінны зразумець, што пасылаючы нас на гэты з'езд, рабочыя, калгаснікі, працоўныя Совецкай Беларусі абавязалі нас заявіць на ўвесь свет аб тым, што беларускі народ аднадушна галасуе за сталінскую Канстытуцыю (працяглыя апладысменты). Мы ўпэўнены таксама ў тым, што і працоўныя ўсіх іншых рэспублік і абласцей Совецкага Саюза таксама аднадушна галасуюць за сталінскую Канстытуцыю (апладысменты). Сталінская Канстытуцыя, такім чынам, ужо становіцца нашай сапраўднасцю, нашым законам.

Мы запісваем у нашай Канстытуцыі тое, што намі ўжо заваявана тое, што ва ўмовах Совецкага Саюза мае ўсе магчымасці для свайго рэальнага ажыццяўлення. Мы запісваем, што наша краіна з'яўляецца соцыялістычнай дзяржавай рабочых і сялян, гэта значыць, што ў нашай краіне мы перамаглі на аснове дыктатуры пролетарыята.

Рабочы клас будзе ажыццяўляць і пры новай Канстытуцыі сваю кіруючую ролю. Пад кіраўніцтвам партыі ён будзе ажыццяўляць задачы выхавання, задачы кіраўніцтва ўсімі слаямі працоўных у барацьбе за поўнае знішчэнне перажыткаў капіталізма ў эка-

номіцы і свядомасці людзей, у барацьбе за давядзенне да канца задачы ліквідацыі класаў і ўсіх класавых рознасцей—для завяршэння пабудовы соцыялізма. Будзе гэта ажыццяўляць на аснове заваявання велізарнейшага давер'я да рабочага класа з боку калгаснікаў, працоўнай інтэлігенцыі і ўсіх працоўных (апладысменты).

Я не буду растлумачваць асобных пунктаў сталінскай Канстытуцыі. Мы правялі велізарную растлумачальную работу па ўсіх пунктах і па ўсіх раздзелах сталінскай Канстытуцыі. Скажу толькі, што кожны пункт—гэта цэлая паэма, гэта цэлы том палітычных ідэй, над якімі нам усім трэба будзе працаваць, каб гэтыя велізарнейшай важнасці гістарычныя ідэі сталі сапраўды здабыткам кожнага працоўнага. Перад кожным з нас, работнікаў соцыялістычнай дзяржавы, сталінская Канстытуцыя з усёй сур'ёзнасцю паднімае пытанне аб перабудове ўсёй нашай работы ў поўнай адпаведнасці з новымі ўмовамі, у поўнай адпаведнасці з яе асновамі. Гэтае новае заключаецца ў тым, што ў краіне перамогшага соцыялізма ўся работа праходзіць на аснове разгортвання пролетарскай дэмакратыі. Трэба памятаць словы таварыша Сталіна аб тым, што ўсеагульнае, роўнае, прамое і тайнае галасаванне з'яўляецца хлыстом у руках працоўных супроць дрэнных работнікаў. Між тым, сёння мы павінны прызнаць, што, правёўшы абмеркаванне сталінскай Канстытуцыі на высокім палітычным узроўні, мы ўсё-ж не змаглі яшчэ перабудаваць сваёй работы ў адпаведнасці з гэтай Канстытуцыяй. На цэлым радзе пленумаў, раённых з'ездаў советаў, прысвечаных падвядзенню вынікаў абмеркавання сталінскай Канстытуцыі, выявіліся значныя недахопы ў нашай канкрэтнай практычнай рабоце.

Мы павінны з усёй большэвіцкай самакрытычнасцю прызнаць, што слаба, дрэнна ў нас пакуль пастаўлена масавая работа советаў. Дрэнна працавалі секцыі советаў і дэпутацкія групы, дрэнна працуюць пленумы советаў, нездавальняюча ажыццяўляецца сувязь дэпутатаў советаў з працоўнымі масамі, справаздачнасць кожнага дэпутата не была сістэматычнай.

Мы павінны прызнаць няўменне спалучаць нашу работу па выкананню гаспадарча-палітычных кампаній з разгортваннем масавай работы советаў, з скарыстаннем той вялікай палітычнай актыўнасці мас, якая намі ўсімі зафіксавана ў часе абмеркавання сталінскай Канстытуцыі.

Мы павінны адзначыць зусім дрэннае веданне людзей нашымі практычнымі работнікамі на мясцах. Я стаўлю пытанне рубам перад кожным работнікам нашых сельсоветаў, райвыканкомаў і цэнтральных совецкіх устаноў: ці ведаем мы гэтых новых людзей—стаханаўцаў, стаханавак прамысловасці, сельскай гаспадаркі? Некаторых ведаем. Мы добра ведаем тых, аб кім пішуць нашы газеты, бо аб іх мы чытаем у газетах. Але вельмі сумную з'яву прадстаўляе той работнік совета, які пра сваіх стаханаўцаў даведваецца праз газеты. Гэта значыць, што ён не ведае сваіх

людзей, што ён з'яўляецца непрыгодным работнікам у цяперашніх умовах. І мы павінны адзначыць, што на цэлым радзе сельскіх сходаў пры абмеркаванні праекта сталінскай Канстытуцыі масы ўказвалі на тое, што значная частка работнікаў советаў дрэнна кіруе, не звязана з масай і патрабавалі зняцця гэтых людзей. Гэтыя людзі былі зняты і заменены новымі людзьмі, больш прыгоднымі для кіраўніцтва па ажыццяўленню нашых задач.

Гэтае патрабаванне адносіцца не толькі да советаў, але і да ўсіх нашых гаспадарчых і культурных устаноў. Узросшая палітычная свядомасць і актыўнасць працоўных мас горада і вёскі прад'яўляе да ўсёй работы ўсё больш высокія патрабаванні, ставіць гэту работу пад яшчэ больш непасрэдны кантроль працоўных мас і мы будзем простымі балбатунамі, калі не зразумеем гэтага, калі не зможам нашы рэволюцыйныя большэвіцкія ідэі спалучыць з такімі-ж рэволюцыйнымі большэвіцкімі справамі. А сутнасць гэтых спраў заключаецца ў тым, што ўся наша работа будзе праходзіць на аснове разгорнутай пролетарскай дэмакратыі, на аснове сталінскай Канстытуцыі, якая з'яўляецца новым этапам у справе далейшага ўмацавання дыктатуры пролетарыята, у справе далейшай пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

## ІХ. СОВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ—ФАРПОСТ НА ГРАНІЦЫ З КАПІТАЛІСТЫЧНЫМ СВЕТАМ.

Перад працоўнымі Совецкай Беларусі, перад советамі, усімі ўстановамі і арганізацыямі стаяць асабліва адказныя задачы ў сувязі з тым, што Совецкая Беларусь знаходзіцца на мяжы з капіталістычным светам. Сучасная грозная міжнародная абстаноўка атручана небяспекай новай сусветнай імперыялістычнай вайны. Таварыш Сталін указвае на два ачагі падрыхтоўкі новай сусветнай імперыялістычнай вайны: на Ўсходзе—імперыялістычная Японія, на Захадзе—фашысцкая Германія.

Нямнога часу прайшло пасля гутаркі таварыша Сталіна з панам Рой-Говардам, але значэнне гэтых ачагоў падрыхтоўкі новай сусветнай імперыялістычнай вайны выявілася ў яшчэ больш значнай меры. Мала таго, выявілася ясна і тое, што паміж гэтымі ачагамі існуе самая цесная сувязь, што іскры ваеннай небяспекі пераносяцца з Захада на Ўсход і з Усхода на Захад, пагражаючы ў першую чаргу нашай совецкай дзяржаве.

Совецкі Саюз вёў і вядзе няўхільную палітыку міру. Уся гісторыя існавання Совецкага Саюза з'яўляецца гісторыяй барацьбы за мір, гісторыяй барацьбы супроць падрыхтоўкі новай сусветнай імперыялістычнай вайны. Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца новым яскравым прыкладам мірных настрояў і мірнай палітыкі Совецкага Саюза. Аднак, поспехі соцыялістычнага будаўніцтва Совецкага Саюза і іх яскравы прыклад—сталінская Канстытуцыя выклікалі хвалю невычарпальнай злобы і няна-

вісці ў буржуазных колах, прычым застрэльшчыкамі ў гэтым з'яўляюцца фашысцкія дзяржавы. Калі Совецкі Саюз і сталінская Канстытуцыя—гэта палітыка міру, гэта барацьба за мір, то фашызм—гэта вайна, гэта падрыхтоўка новай сусветнай імперыялістычнай вайны, накіраванай у першую чаргу супроць Совецкага Саюза. Фашысты рвуць існуючыя дагаворы, яны сілай зброі захватваюць новыя тэрыторыі, бессаромна нарушаюць узятыя абавязацельствы, здзекуюцца над сусветнай грамадскай думкай і прызнаюць толькі адзін аўтарытэт—гэта аўтарытэт права сілы, права ўзброенасці, права вайны.

Адным з найбольш яскравых прыкладаў гэтай раз'юшанай фашысцкай нагласці з'яўляюцца падзеі, звязаныя з барацьбой іспанскага народу супроць фашысцкіх мяцежнікаў. Прыняўшы на сябе абавязацельствы аб неумяшанні, фашысцкая Германія, Італія, Партугалія бессаромна нарушаюць гэтыя абавязацельствы, пастаўляючы зброю фашысцкаму генералу Франко. Учора газеты прынеслі нам весткі аб тым, што ўрады Германіі і Італіі прызналі законным урадам Іспаніі генерала Франко. Увесь свет добра ведае, што перамога фашыстаў у Іспаніі ёсць далейшае абвастрэнне небяспекі новай вайны, што дапамога генералу Франко з боку фашысцкай Германіі і Італіі з'яўляецца адным з этапаў да развязвання новай сусветнай імперыялістычнай вайны.

На вялікі жаль, сярод буржуазных дзяржаў, якія сёння не зацікаўлены ў вайне, няма патрэбнай рашучасці для таго, каб абвуздаць гэтых раз'юшаных фашысцкіх бандытаў з вялікай дарогі. І толькі Совецкі Саюз, як верны вартавы, стаіць у іспанскіх справах на вернай пазіцыі, абараняючы законнасць і парадак, абараняючы захаванне міру.

Мы ўсёй душой жадаем іспанскаму народу перамогі над азвярэлымі фашыстамі (а п л а д ы с м е н т ы), бо барацьба іспанскага народу з'яўляецца, як сказаў таварыш Сталін, справай не толькі іспанцаў, але і ўсяго прагрэсіўнага і перадавога чалавецтва. Узятыя на сябе абавязацельствы мы выконваем да канца. Ніколі і ні пры якіх умовах Совецкі Саюз не зменіць сваёй пазіцыі ў барацьбе за мір, але сучасная грозная абстаноўка прымушае нас яшчэ раз напомніць, што ў барацьбе за мір мы не з'яўляемся буржуазнымі пацыфістамі і што, абараняючы мір, мы павінны рыхтавацца да таго, каб абараняць гэты мір усімі сродкамі. Таму мы цалкам адабраем тыя мерапрыемствы Совецкага Саюза, якія накіраваны на абароназдольнасць нашай краіны і боездольнасць Чырвонай арміі (а п л а д ы с м е н т ы). Мы бачым, што гэтыя мерапрыемствы даюць багатыя рэзультаты. Манеўры часцей Беларускай вайсковай акругі, на якіх многія з вас прысутнічалі, паказалі, што пад таленавітым кіраўніцтвам камандуючага Беларускай вайсковай акругі т. Убарэвіча абарона заходняй граніцы забяспечана, што праход з Захада ў Совецкі Саюз закрыт. Чырвоная армія прадстаўляе сабой несакрушальную сілу. Пры пастаянных клопатах аб узмацненні абароназдольнасці нашай кра-

іны, аб умацаванні нашай доблеснай Чырвонай арміі з боку таварыша Сталіна, пад кіраўніцтвам яго бліжэйшага саратніка першага маршала Совецкага Саюза тав. **Варашылава** Чырвоная армія ў любую мінуту гатова абараніць граніцы Совецкага Саюза і сакрушыць ворага, калі ён паспрабуе на нас напасці, на той тэрыторыі, адкуль ён прыйшоў (гучныя апладысменты).

Прыгранічнае становішча Совецкай Беларусі з асаблівай сілай ставіць перад намі задачу ажыццяўлення цэлага раду мерапрыемстваў у справе падрыхтоўкі абароны нашай краіны не толькі па лініі Чырвонай арміі, але ўсіх нашых грамадзянскіх устаноў. Мы павінны рыхтавацца да таго, каб Совецкая Беларусь у патрэбную мінуту ператварылася ў ваеннае становішча, каб нашы фабрыкі, заводы, калгасы, соўгасы з'яўляліся сапраўднымі крэпасцямі абароны, каб моцны тыл змог дапамагчы нашай Чырвонай арміі забяспечыць перамогу над ворагам. І мы, рабочыя, калгаснікі, працоўныя Совецкай Беларусі, для якіх створана новае шчаслівае жыццё і для якіх на аснове сталінскай Канстытуцыі адкрываецца далейшы бліскучы шлях соцыялістычнага будаўніцтва, абавязаны даць непарушную клятву нашай партыі аб тым, што мы гатовы да апошняй кроплі крыві абараняць нашу вялікую соцыялістычную радзіму (гучныя апладысменты).

Вось чаму беларускія паэты, выражаючы думку і волю беларускага народу ў дванаццаці песнях, прысвечаных Чырвонай арміі, спяваюць:

«Мы помнім змаганне, мінулыя маршы,
Мы помнім суровыя дні непагод...
А вораг зачэпіць—адпорам бясстрашным
Адкажа бясстрашны совецкі народ.

(Гучныя апладысменты).

Таварышы, я даклад канчаю. Дазвольце мне скончыць яго зноў вытрымкай з таго дакумента, які сёння я вам прыводзіў—вытрымкай з пісьма да таварыша Сталіна. Прысвяціўшы першае слова свайго даклада таварышу Сталіну, я канчаю свой даклад таксама зваротам да таварыша Сталіна:

«Агні бальшэвіцкіх ідэй, як сузор'і,
Усходзяць над светам і свет абнялі,
І свецяць нізінам, узгор'ям, прымор'ям,
Як новае сонца шчаслівай зямлі.
Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін,
Твая Канстытуцыя—сцяг пакаленняў,
Ўзнімае народы нявольных краін.
Твая Канстытуцыя—гордасць Саветаў,
Твая Канстытуцыя—Ленінскі гімн,
Як кліч комунізма—над цэлым сусветам,
Як сцяг комунізма—совецкіх краін.

Усё, аб чым марылі людзі і снілі,
Прыбітыя гнётам, прakляццем старым,
У Совецкім Саюзе з'яўляецца быллю,
І нашае шчасце мы свету дарым.
Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка ў нас—пра цябе...
... Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

Няхай жыве таварыш **Сталін!** (Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты. Зала стоячы віта таварыша **Сталіна.** Воклічы: «Няхай жыве таварыш **Сталін!**», «Прывітанне мудраму **Сталіну!**» «Няхай жыве творца Канстытуцыі таварыш **Сталін!**». Усе спяваюць «Інтэрнацыянал»).





*Рэдакцыйная камісія З'езда*
*Адказны рэдактар Н. В. КАЗЮК.*

Зак № 1238. 1000 экз. Галоўлітбел № 5462.

Друкарня імя Сталіна. Менск.